2 мая 2014 | № 17 (386)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



ISSN 2218-2144





# Парадоксы «георгіеўскай стужкі»

**На 9 мая горад будзе паўсюль упрыгожаны «георгіеўскімі стужачкамі». Нібыта, гэта сімвал памяці пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, памяць пра гераічную перамогу над фашызмам.**



Сяргей ПУЛЬША

**Шмат хто кажа, што нашэнне такой стужкі — не ўвасабленне ўдзячнасці за подзвіг, а, наадварот, здзек з ветэранаў і неправамернае выкарыстанне часткі вайсковай узнагароды.**

«Георгіеўская стужка» з'явілася з Імператарскім Ваенным ордэнам Святога Пакутніка і Пабеданосца Георгія — вышэйшай ваеннай узнагародай Расійскай імперыі. Ордэн быў заснаваны імператрыцай Кацярынай II у 1769 годзе для ўзнагароды афіцэраў за заслугі выключна на полі бою.

Адзін раз «георгіеўская стужка» была і самастойнай узнагародай. Гэта адбылося ў 1914 годзе, калі за заслугі ў правядзенні мабілізацыі генерал-лейтэнанту А. Лукомскаму была падаравана «георгіеўская стужка» да ўжо наяўнага ў яго ордэна Святога Уладзіміра 4-й ступені. І толькі таму, што сам «Георгій» па статуце немагчыма было даць за мабілізацыю. Такім чынам Лукомскі стаў уладальнікам унікальнай узнагароды — ордэна Св. Уладзіміра на «георгіеўскай стужцы». Узнагароду жартоўна называлі «Уладзімір Георгіевіч».

Саветы адмовіліся ад «георгіеўскай стужкі», бо яна працягвала выкарыстоўвацца ва ўзнагародах Белых армій. У прыватнасці, яна прысутнічала на ганаровай узнагародзе Добраахвотніцкай арміі — знаку «За Ледзяны паход» і ўзнагародзе Усходняга фронту, знаку «За вялікі Сібірскі паход». Стужкі «георгіеўскага колеру» (банты, шаўроны, стужкі на галаўных уборах і сцягі) выкарыстоўваліся ў розных белых фарміраваннях. Напрыклад, атаман Анненкаў даў «права нашэння георгіеўскай стужкі» ветэранам свайго атрада «для адрознення ад зноў паступаючых».

Ва ўзнагароднай сістэме СССР колеры гэтай стужкі паслужылі прататыпам для афармлення калодкі ордэна Славы і медаля «За перамогу над Германіяй». Але такую стужку нельга называць «георгіеўскай» — гэта няправільна як з гістарычнага, так і з геральдычнага пунктаў гледжання. Яе можна называць «гвардзейскай».

Аздабляць «георгіеўскімі» ці «гвардзейскімі» стужкамі машыны, вопратку недарэчна і па маральных, і па юрыдычных прычынах. Калі яшчэ ордэна Славы з «гвардзейскай стужкай» не існавала (ён з'явіўся толькі ў 1943 годзе), яе актыўна скарыстоўвалі для ўзнагарод створанага гітлераўцамі Камітэта Вызвалення Народаў Расіі (КОНР) і салдат Рускага вызвольнага войска (арміі Уласава). Шмат хто з афіцэраў «арміі Уласава» яшчэ з часоў Першай сусветнай былі кавалерамі ордэна Святога Георгія. У тым ліку заўзяты вораг савецкай улады генерал Пётр Красноў, які стаў начальнікам глаўка казацкіх войскаў III Рэйху, белы генерал, а затым групенфюрэр СС Андрэй Шкура, групенфюрэр СС Рудольф Бангерскі, маёр Аляксандр Альбаў, начальнік аддзела прапаганды штаба ВПС КОНР, генерал-маёр Антон Туркул, камандзір II корпуса Узброеных Сіл КОНР, і гэтак далей.

Таму тыя, хто зараз павязваюць «георгіеўскія стужкі» на аўто і адзенне, шануюць памяць калабарантаў, а не пераможцаў фашызму.




**«Георгіеўская стужачка» стала сімвалам захопнікаў Украіны**

Нават тыя, хто кажуць пра «гвардзейскую стужку» як сімвал і частку ордэна Славы, вельмі памыляюцца ў яе выкарыстанні. Атрымаць ордэн Славы можна было толькі за гераічныя дзеянні: у адзіноце захапіць варожы ДЗОТ і знішчыць ягоны гарнізон, ручнымі гранатамі падбіць не менш трох танкаў, з ручной зброі збіць варожы самалёт, знішчыць склад ворага з ваеннай маёмасцю, у падбітым танку працягваць выконваць баявую задачу і гэтак далей. Для тых, хто такія подзвігі не здзейсніў, выкарыстанне «гвардзейскай стужкі», якая з'яўляецца часткай узнагароды, неправамернае, недарэчнае, і нават караецца заканадаўствам.

Уся гэтая «бадзяга» з «георгіеўскімі стужкамі» была прыдумана людзьмі, далёкімі ад гісторыі. Ідэя завязвання стужак дзе заўгодна прыйшла ў галаву супрацоўніцы агенцтва «РИА Новости» Наталлі Лосевай, калі яна да 60-годдзя Перамогі (увага!) перавязвала такімі стужкамі падарункі сваім родным-ветэранам. Ідэю падтрымала аб'яднанне «Студэнцкая абшчына», а потым стужка ператварылася ў сімвал павальнай расійскай патрыятычнай істэрыі.

Мы бачым паўсюдны продаж стужак, ёю аздабляюцца «святочныя наборы» аж да гарэлкі і тытуню, стужка бачная на рэкламах і сайтах.

Падчас Еўрамайдана ва Украіне «георгіеўскую стужачку» актыўна выкарыстоўвалі ўдзельнікі так званага «Антымайдана». Зараз яна стала сімвалам захопнікаў Украіны — яе, як знак адрознення, актыўна скарыстоўваюць сепаратысты і «расійскія турысты» са зброяй у руках. Так гэтыя колеры сталі колерам акупацыі і агрэсіі Расіі супраць Украіны.

Парадоксы «георгіеўскай стужкі» працягваюцца. Гэтая стужка стала афіцыйным сімвалам грамадскага саюза «Украінскі фронт», створанага 1 лютага 2014 года ў Харкаве па ініцыятыве мэра Генадзя Кернэса. Зараз, як мы ведаем, той жа Генадзь Кернэс быў цяжка паранены стрэлам снайпера, які магчыма, носіць на грудзях «георгіеўскую стужку».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАБРУЙСК. Дзіцячая бальніца — не прыярытэт



**У Бабруйску працягваецца змаганне за добрыя ўмовы ў дзіцячай паліклініцы №3 і дзіцячай бальніцы.**

Яны размяшчаюцца ў адным будынку. Яшчэ ў мінулым годзе шматдзетны бацька і актывіст кампаніі «Гавары праўду» Уладзімір Шчарбатых звяртаўся ў гарвыканкам з подпісамі ад бабруйчан з просьбай прывесці будынак да ладу, але з таго часу нічога не змянілася.

Збіраць подпісы непасрэдна ў будынку паліклінікі галоўны лекар Ірына Рыжанкова забараніла, хаця бацькі падпісваліся ахвотна. Яна нават асабіста вывела журналістаў і актывістаў за дзверы, забараніўшы рабіць фота збудавання нават звонку. Тым не менш, сабраныя ў выніку подпісы не паскорылі працэс рэканструкцыі. Але лісты ад чыноўнікаў актывісты «Гавары праўду» атрымалі, у іх называўся тэрмін пачатку рамонту — першы квартал бягучага года, які ўжо скончыўся.

Бацькі маленькіх пацыентаў скардзяцца, што ўмовы ў паліклініцы і бальніцы становяцца толькі горш. Асабліва цяжка даводзіцца тым, хто трапляе ў бальнічны корпус. Тут даўно не было рамонту, і ўсяго адна прыбіральня і душ на ўвесь паверх.

Шматдзетны бацька Уладзімір Шчарбатых вырашыў яшчэ раз звярнуцца да чыноўнікаў, і накіраваў на днях чарговы зварот на імя галоўнага лекара УЗ «Бабруйская цэнтральная бальніца» Уладзіміра Гацко. На гэты раз ён папрасіў назваць канкрэтныя тэрміны пачатку рэканструкцыі паліклінікі і бальніцы.

### САЛІГОРСК. Абаронцы лесапарку б'юць трывогу



**Актывістам салігорскай грамадскай ініцыятывы «Абаронім лес» стала вядома аб намеры мясцовых уладаў знішчыць чарговы кавалак катэгарыйнага лесапарку пад будаўніцтва жылля.**

Гаворка пра зялёную зону па вуліцы Лясной, на месцы якой чыноўнікі імкнуцца змясціць так званы сацыяльны дом.

— У 2010 годзе, падчас перадвыбарчай кампаніі, адваяваць гэтую частку лесу ў нас атрымалася. Тады давераная асоба дзеючага кіраўніка краіны, старшыня Мінаблвыканкаму Барыс Батура на сустрэчы з салігорскімі выбаршчыкамі публічна заявіў пра неабходнасць захавання лесапарку, — кажа адзін з абаронцаў салігорскага лесапарку Уладзімір Шыла. — Батура сышоў на пенсію, а мясцовыя чыноўнікі дзеля эканоміі сродкаў пры будаўніцтве жылля зноўку рэанімавалі ідэю па знішчэнні зялёнай зоны па вуліцы Лясной. Рыхтуем зварот з гэтай нагоды ў пракуратуру і Адміністрацыю прэзідэнта.

Актывісты ініцыятывы «Абаронім лес» адзначаюць, што плануемы да высечкі лес адносіцца да першай катэгорыі, і дазвол на яго высечку мусіць быць атрыманы ў кіраўніка краіны. Да таго ж гэта тэрыторыя ўваходзіць у ахоўную зону з-за наяўнасці каля яе трох свідравін, з якіх у Салігорск падаецца пітная вада. Абаронцы лесу нагадваюць, што нават на генплане развіцця горада гэта зона з'яўляецца рэзервовай, а будаўніцтва мусіць весціся на велізарным полі ў напрамку вёсцы Краснадворцы.

### МАГІЛЁЎ. Закрытыя адкрытыя суды



**Грамадскі актывіст Аляксандр Хамратаў не патрапіў у залу суда Кастрычніцкага раёна Магілёва на разгляд справы свайго знаёмага.**

Суддзя Крашкіна не пусціла яго ў залу суда, сказала, што заўзятараў і гледачоў не запрашала.

«Працэс быў самы звычайны. Майго сябра затрымала ДАІ і правяла асведчанне на алкаголь. Трубка нічога не паказала, а аналіз крыві выявіў неістотную дозу роўную 0,37 праміле. Суд прыняў рашэнне аштрафаваць майго знаёмага на 15 мільёнаў рублёў і пазбавіць яго права кіравання аўтамабілем на тры гады. Судовы працэс звычайны, але суддзя вырашыла мяне на яго не пускаць», — кажа Аляксандр Хамратаў.

З гэтай нагоды актывіст напісаў скаргу на імя старшыні суда і атрымаў адказ, у адпаведнасці з якім на судовых працэсах могуць прысутнічаць адвакат, пацярпелы, прадстаўнік альбо асоба, якая пацярпела.

«Суддзя дзейнічала незаконна. Гэты судовы працэс не быў закрытым. Відаць, суддзі адвыклі ад звычайных грамадзян, якія могуць прыйсці і папрысутнічаць на судзе. Патрэбна правядзенне маніторынгу судовых пасяджэнняў, бо суддзі пачынаюць свавольнічаць і не выконваюць ні закон, ні прапісаную ім працэдуру», — лічыць праваабаронца Барыс Бухель.

**Матэрыялы падрыхтаваныя па інфармацыі сайта spring96.org**

# Марш ці не марш

**Спачатку шматлікія беларускія СМІ паведамілі: 9 мая расійскія фанаты збіраюцца правесці марш у Мінску, пасля дружна сказалі, што маршу не будзе. А што ж будзе?**

Калі ўважліва прачытаць каментар прэзідэнта расійскага клуба хакейных заўзятараў «Russia Unites» Эдуарда Латыпава, становіцца зразумелым, што расійскія сцягі на вуліцах Мінска, прычым у афіцыйных калонах, мы можам пабачыць.

Прэзідэнт «Russia Unites» заявіў, што насамрэч ёсць дамоўленасць з мінскімі ўладамі, што расійскія заўзятары прымуць удзел у афіцыйных мерапрыемствах, прысвечаных Дню Перамогі. Ён нагадаў, што і ў Беларусі, і ў Расіі — гэта дзяржаўнае свята. Таму няма нічога дзіўнага, што расіяне, якія прыехалі на сусветнае першынство ў Беларусь, паўдзельнічаюць у мерапрыемствах, запланаваных беларускімі ўладамі.

Марш гэта будзе ці не марш, не мае значэння. Мае значэнне, што грамадзяне іншай краіны, у парушэнне заканадаўства Рэспублікі Беларусь, па нейкай там «дамоўленасці з мінскімі ўладамі», збіраюцца ўдзельнічаць у афіцыйных мерапрыемствах. А бадзёрыя загалоўкі беларускіх СМІ толькі пазбаўляюць пільнасці грамадзян Беларусі.

Таму хацелася б запытацца ў мінскіх граданачальнікаў: ці падавалі прадстаўнікі клубу «Russia Unites» заяўку на правядзенне масавага мерапрыемства (а калі будзе больш за два фанаты, гэта, сыходзячы з нашай праваприменяльнай практыкі, ужо масавае мерапрыемства)? Ці будуць яны аплачваць паслугі міліцыі і хуткай дапамогі? Ці маюць яны права на задзейнічанне сімволікі, якая афіцыйна ў Беларусі не зарэгістравана?

**НЧ**

# У падтрымку Максіма Вінярскага

**Маладыя хрысціянскія дэмакраты 30 красавіка правялі ў Мінску акцыю ў падтрымку дэмакратычнага актывіста Максіма Вінярскага.**

Максім быў затрыманы 22 красавіка і, нягледзячы на моцныя праблемы са здароўем, асуджаны на 12 сутак адміністратыўнага арышту, а зараз трымае галадоўку.

У мінскім метро, на тумбах аб'яваў у грамадскіх месцах у Мінску актывісты МХД распаўсюдзілі ўлёткі з партрэтам зняволенага і патрабаваннямі па-беларуску і па-англійску: «Свабоду Максіму Вінярскаму!».

«Мы патрабуем неадкладна выпусціць Максіма Вінярскага! Мы абураны тым, што яму дагэтуль не аказалі медыцынскай дапамогі! У сітуацыі з Максімам улады паказалі ўсю сваю пачварную сутнасць, яны гатовыя наўпрост забіваць самых небяспечных дэмакратычных актывістаў. Патрабуем неадкладна аказаць Максіму Вінярскаму хуткую дапамогу і перавесці яго ў шпіталь! Тое, што робіцца ў дачыненні да Максіма, — гэта сапраўднае катаванне, крытычная сітуацыя, здзек з чалавека і недапушчальнае парушэнне яго правоў. Ён ахвяруе сваім здароўем дзеля нас усіх», — адзначаюць удзельнікі акцыі.

**Прэсавая служба БХД**

# БНФ на кангрэсе літоўскіх кансерватараў

**Дэлегацыя Партыі БНФ прыняла ўдзел у мерапрыемствах літоўскай партыі «Саюз Айчыны» — Літоўскія хрысціянскія дэмакраты, прысвечаных дзесяцігоддзю сяброўства Літвы ў Еўрасаюзе.**

«Саюз Айчыны» з'яўляецца даўнім і блізкім партнёрам Партыі БНФ — пагадненне пра супрацоўніцтва паміж дзвюма партыямі было заключанае яшчэ ў 2002 годзе. Дзве братэрскія партыі ўваходзяць у агульнакантынентальную Еўрапейскую народную партыю (EPP).

30 красавіка старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч выступіў на канферэнцыі «Справа Украіны — рэзкі напамін пра старыя-новыя пагрозы?». На гэтай канферэнцыі таксама выступілі віцэ-старшыня Еўрапарламента Яцэк Пратасевіч, віцэ-старшыня EPP Марыё Давід, лідар партыі «Саюз Айчыны» — Літоўскія хрысціянскія дэмакраты Андрус Кубіліюс, экспрэм'ер Малдовы Улад Філат і іншыя палітыкі з краінаў ЕС і Усходняга партнёрства.

1 траўня ў Вільні адбыўся кангрэс Еўрапейскай народнай партыі і партыі «Саюз Айчыны», прысвечаны дзесяцігоддзю сяброўства Літвы ў ЕС. Дэлегацыя Партыі БНФ запрошаная для ўдзелу ў ім у якасці гасцей. Як адзначыў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, бліжэйшыя выбары ў Еўрапарламент з'яўляюцца вельмі важнымі: «Зараз у Еўропе ёсць пагроза ўзмацнення радыкальных партыяў, якія могуць паменшыць уплыў нашых ідэйных паплечнікаў. Мы адчуваем пэўную занепакоенасць з гэтай нагоды, таму што бачым, як некаторыя з гэтых сілаў падтрымалі Расію ў яе крымскай авантуры, у тым ліку дасылаючы назіральнікаў на незаконны рэферэндум пра анексію Крыму. Праеўрапейскія сілы ў нашым рэгіёне павінныя адчуваць еднасць і змагацца за агульную будучыню нашых нацыяў» — сказаў Аляксей Янукевіч.

**Паводле прэс-службы Партыі БНФ**

# 1000 дзён Алеся Бяляцкага

**1000 дзён за кратамі знаходзіцца палітзняволены кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. Пра гэта «Радыё Рацыя» нагадала жонка палітвязня Наталля Пінчук:**

— Дата дастаткова сумная. Мы таксама прыкінулі, колькі ён увогуле пражыў дзён. Атрымліваецца недзе каля 18 800. І вось з гэтых 18 тысяч 1000 ён знаходзіцца ў заключэнні ў даволі цяжкіх умовах.

Што тычыцца звестак ад самаго Алеся, то бывае дастаткова цяжка атрымаць якую-небудзь канкрэтную інфармацыю. Ён звычайна гаворыць, што ўсё ў яго нармальна. Але разам з тым мяне гэта і вельмі непакоіць, таму што я разумею — ён не хоча гаварыць і засмучваць мяне падрабязнасцямі свайго жыцця, падрабязнасцямі пра стан свайго здароўя. А менавіта здароўе мяне непакоіць найбольш, таму што ўмовы там дастаткова цяжкія. Ён, акрамя таго, і працуе 6 дзён на тыдзень. Звесткі пра яго здароўе, на жаль, я атрымліваю праз дастаткова ўскосныя крыніцы. Ведаю, што ён зараз знаходзіцца ў іхняй лякарні. Туды ён патрапіў у выніку атручвання. Праз дакументы, якія яшчэ раней удалося атрымаць з калоніі, таксама бачна, што ў яго праблемы з ціскам, чаго раней не было. Гэта ўжо відавочна набытае захворванне падчас знаходжання ў няволі. Можна ўзгадаць Мікалая Статкевіча, які таксама раней не меў праблем з ціскам, але ў гэтым годзе ў СМІ праходзіла інфармацыя, што ў яго была даволі цяжкая сітуацыя з ціскам. Гэта, зразумела, выклікае вялікі непакой і ў мяне і ў ва ўсіх родных палітзняволеных. Тое, якімі яны выйдуць, тое, які ў іх зараз стан здароўя.

Нагадаем, Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў зняволення. Ён адбывае пакаранне ў калоніі №2 у Бабруйску.

**Паводле Радыё Рацыя**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Мы не сеем, мы не пашам

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як толькі наступае перыяд саджаць бульбу, у Беларусі рэзка скарачаецца колькасць навінаў. А калі на тыдні зрабілі тры выходных дні з пяці працоўных, узнікла ўражанне, што бульбу кінуліся саджаць не толькі шараговыя грамадзяне, але і міністры са сваімі намеснікамі.**



Дзейнасць спынілася — усе на гародах. І толькі Аляксандр Лукашэнка працягвае за ўсім назіраць. Ён традыцыйна выправіўся ў раёны, пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэта не дзіва — так ён робіць кожны год. Тым больш, што ён упэўнены — там ужо можна паўнавартасна працаваць. Але тое, што кіраўнік дзяржавы там нагаварыў, выклікае пэўнае недаўменне.

Найперш, спадар Лукашэнка ўбачыў, як ідзе сяўба з борта верталёта і раскрытыкаваў аграрыяў за нізкую культуру земляробства, паведамляе ягоная прэс-служба. Праўда, яна не распавядае пра тое, як можна ацаніць культуру земляробства з вышыні птушынага палёту. Па-мойму, для гэтага трэба пабываць на зямлі.

Але ўласна на зямлю Аляксандр Лукашэнка, падаецца, так і не трапіў. Адзначыўшы, што Магілёўская вобласць зараз працуе «практычна горш за ўсіх у краіне», Лукашэнка наведаў таварна-малочныя фермы. Яго праінфармавалі аб развіцці жывёлагадоўлі і выкананні яго даручэнняў па тэхнічным перааснашчэнні і рэканструкцыі МТФ і комплексаў. Як высветлілася, тут таксама «усё не дзякуй Богу».

У ліку праблемных пытанняў — навучанне спецыялістаў працы ў сучасных умовах. «Мы дамаўляліся, што, перш за ўсё, трэба накіроўваць спецыялістаў на лепшыя фермы і навучыць іх працаваць. Чаму не навучылі?» — задаў пытанне кіраўнік дзяржавы і запатрабаваў неадкладна вырашыць гэтую праблему.

Дзіўна: я раней думаў, што спецыялістаў павінны рыхтаваць не на фермах, а ў адпаведных навучальных установах. Дзеля гэтага ў нас ёсць нават аграрна-тэхнічны ўніверсітэт. А калі яго выпускнікоў трэба накіроўваць на фермы і там яшчэ давучваць — навошта тады ён патрэбны? Лепш адразу накіроўваць чалавека на прадпрыемства пасля, скажам, школы альбо ПТВ. Навошта марнаваць пяць гадоў часу і бюджэтныя сродкі? Хай адразу ж на ферме вучыцца!

А між тым, сродкі на развіццё Магілёўскай вобласці ўкладаюцца немалыя. Толькі ў 2013 годзе ў рамках дзяржпраграмы па пераадоленні наступстваў катастрофы на ЧАЭС у гэты рэгіён з рэспубліканскага бюджэту было накіравана каля 400 мільярдаў рублёў! А рэгіён, па словах Лукашэнкі, «як быў у адстаючых, так і працягвае да гэтага часу плесціся ў хвасце».

Старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік адзначыў, што з васьмі раёнаў паўднёвага ўсходу Магілёўскай вобласці 6 адносяцца да найбольш пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС. Плошча, якую яны займаюць, складае больш за 1 мільён гектараў, або 36,1% ад агульнай плошчы Магілёўскай вобласці.

І гэта яскравы прыклад таго, што, колькі грошай у яго не ўкладай, «мірны атам» усё роўна застаецца небяспечным. Разочак спаскудзіўшы тэрыторыю і забрудзіўшы яе радыенуклідамі, мы атрымалі праблему на стагоддзі, і ніякія грошы тут не дапамогуць. Цэзію і стронцыю па барабану, колькі ў чалавека ў кішэні грошай і на якой ён пасадзе сядзіць.

Дарэчы, на прыкладзе вандроўкі спадара Лукашэнкі ў Магілёўскую вобласць варта было б задумацца жыхарам вобласці Гродзенскай, і Астраўца ў прыватнасці. Праз пару-тройку год мы маем намер дабудаваць там АЭС, а год праз 50 яна свой рэсурс выпрацуе. І на працягу жыцця ўсяго аднаго пакалення Астравец з маляўнічага краю ператворыцца ў апалены радыяцыяй пустэчу, якую ніякія грошы не ўзновяць.

Закрануў Аляксандр Лукашэнка падчас візіту і праблемы Украіны. Па ягоных словах, людзі адтуль ужо пачынаюць бегчы ў спакойную і добразычлівую Беларусь. Але і тут не без разынкі. Ён звярнуў увагу на тое, што не можа забараніць уезд у краіну, аднак у Беларусі глядзяць, што за людзі едуць. «Калі сем'ямі, то зразумела. Але можа ж хлынуць і крымінал сюды. У нас і так яго хапае, ледзь спраўляемся з гэтым», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Да гэтага нам сто разоў казалі і паўтаралі, што мы тут — краіна, якая перамагла арганізаваную злачыннасць і крымінал. Насамрэч — «ледзь спраўляемся». Аказваецца, за відавочнай барацьбой з карупцыяй і наркагандлем у нас хаваецца яшчэ нешта, чаго не чутно, не бачна, але што вельмі небяспечнае, і ледзь-ледзь не вырвецца на волю.

І яшчэ адну навіну сказаў беларускі правадыр. Аказваецца, у Беларусі ўжо мадэрнізавана ўся сістэма аховы здароўя. Пры гэтым найменшая ўвага была ўдзелена Мінску, але і гэтая праблема ў бліжэйшы перыяд будзе вырашана.

Хто-небудзь заўважыў вынікі гэтай мадэрнізацыі? Цікава, у чым яны праяўляюцца? У тым, што з дапамогай грамадскасці ўдалося адмахацца ад прапанаваў некаторых дэпутатаў увесці плату за наведванне паліклінік?

А яшчэ на тыдні Аляксандр Рыгоравіч правёў перамовы з Уладзімірам Пуціным і Нурсултанам Назарбаевым наконт стварэння Еўразійскага эканамічнага саюза. Перамовы былі безвыніковымі. Збольшага, Расія выказалася, што не гатовая адмяніць для саюзнікаў пошліны на газ і нафту, без чаго для гэтых саюзнікаў сам саюз губляе сэнс. Але пры тым Уладзімір Пуцін здолеў уламаць сваіх калегаў на заяву, што дамова пра ЕАЭС будзе падпісаная ў Астане 29 мая.

У гэтым ёсць вялікія сумневы, бо, раней казалася, што яна павінна быць гатовая да падпісання з 1 мая. Да таго ж, аб'ектыўным паказчыкам эфектыўнасці супрацоўніцтва з'яўляецца і Мытны саюз. А тут рэаліі даволі кепскія. Узаемны гандаль краін — членаў Мытнага саюза ў 2014 годзе хутчэй за ўсё не вырасце, мяркуе міністр па гандлі Еўразійскай эканамічнай камісіі Андрэй Сляпнёў. «Хутчэй за ўсё, па выніках гэтага года будзе калі не зніжэнне, то не рост узаемнага гандлю», — сказаў Сляпнёў.

Дык варта ствараць новы саюз, калі яшчэ з праблемамі старога не разабраліся?

Адзінае, што радуе, — Аляксандр Рыгоравіч шчыра і прадуктыўна папрацаваў на выходных. Зараз ён вырашыў усе тэрміновыя праблемы, і можа са спакойнай душою сам пайсці і саджаць бульбу. Ці што ў яго там у Драздах расце...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Раман Худзякоў

**Дэпутат Дзярждумы Расіі ад ЛДПР Раман Худзякоў запатрабаваў ад расійскага ж генпракурора Юрыя Чайкі забараніць у Расіі беларускі гурт «Ляпіс Трубяцкі».**

Ён накіраваў зварот з просьбай праверыць выказванні саліста «Ляпісаў» Сяргея Міхалка на канцэрце ў Іжэўску, дзе, па інфармацыі Худзякова, Міхалок казаў «Слава Украіне» і выказаўся пра «імперскіх імбецылаў».

Але вось што значыць быць далёкім ад рок-н-ролу! Міхалок пра «імбецылаў» казаў у Германіі, дзе фашыствуючыя элементы спрабавалі ўчыніць бойку. Так што Міхалок не меў на ўвазе расійцаў. Што ж тычыцца рэакцыі гурта, то прэс-аташэ гурта Аляксандр Бергер ад імя групы папрасіў прабачэння «ў імбецылаў, а таксама родных і блізкіх людзей, якія жывуць з гэтай цяжкай хваробай». «Мы не хацелі іх пакрыўдзіць», — заявіў Бергер.

Нагадаем, што ў сярэдзіне сакавіка Міхалок абвясціў аб роспуску групы «Ляпіс Трубяцкі» з 1 верасня. Раней камуністы Пскоўскай вобласці заклікалі адмяніць канцэрт у Пскове ў сувязі з тым, што Міхалок падчас выступаў на Еўрамайдане «падтрымаў дзяржаўны пераварот ва Украіне». Канцэрт у выніку быў адменены. Таксама ў сакавіку канцэрт гурта быў адменены ў Цюмені.

## Зянон Пазняк

**Легенда беларускага Адраджэння, 70-гадовы Зянон Пазняк пераабраны старшынёй Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ. Такое рашэнне было прынята на з'ездзе КХП-БНФ, які прайшоў у Мінску 27 красавіка.**



За яго кандыдатуру прагаласавалі ўдзельнікі дзясятага партыйнага з'езду.

Намеснікамі Пазняка дэлегаты па традыцыі абралі Юрыя Беленькага і Сяргея Папкова. Усе яны былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання. У склад новага Сойма ўвайшлі 33 чалавекі.

На з'езд сабраліся 124 дэлегаты і шэраг гасцей з розных рэгіёнаў краіны. Яны выслухалі даклад Зянона Пазняка «Пройдзены шлях — новая перспектыва», які прачытаў Валерый Буйвал, і павіншавалі апладысментамі свайго лідара з 70-годдзем.

З'езд прайшоў без журналістаў, бо ў партыі была праблема з атрыманнем памяшкання. Юрась Беленькі назваў з'езд звычайным, рабочым мерапрыемствам. Ён падкрэсліў, што згодна са статутам партыя мусіць абавязкова збірацца на свой галоўны форум адзін раз на два гады.



## Фёдар Свабода

**Фёдар Свабода стаў новым галоўным трэнерам жаночай зборнай Беларусі па біятлоне. Ён змяніў на гэтай пасадзе вядомага нямецкага трэнера Клаўса Зіберта, у якога скончыўся кантракт з федэрацыяй.**

Як ужо паведамлялася, Зіберт працаваў з беларускімі біятланісткамі з 2008 года, але не стаў працягваць кантракт па стане здароўя.

Фёдар Свабода працуе ў беларускай камандзе з 2011 года. За ўнёсак у перамогі ў Алімпійскіх гульнях у Сочы 25 лютага Свабода атрымаў званне «Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь».

Пасля змены кіраўніцтва жаночая зборная па біятлоне ў складзе Дар'і Домрачавай, Надзеі Скардзінай, Надзеі Пісаравай, Людмілы Калінчык і Анастасіі Дубарэзавай пачне падрыхтоўку да новага сезона ў Мінску. Першы хатні збор працягнецца з 19 мая па 6 чэрвеня. На гэты перыяд запланаваны стралковыя трэніроўкі, веласіпедныя нагрузкі і катанне на лыжаролерах.

# Паміж дзвюма Канстытуцыямі

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Пра беларускую Канстытуцыю сказана ўжо шмат. Варта адзначыць, што ў нас іх дзве — «арыгінальная» 1994 года і «мадэрнізаваная» 1996-га. Але ні першая, ні другая зараз не з’яўляюцца «законам прамога дзеяння». Тым не менш, Асноўны закон вызначае галоўныя прынцыпы, паводле якіх функцыянуе беларуская дзяржава.**



**Падпісанне Канстытуцыі 15 сакавіка 1994 года.** Фота з асабістага архіву М. Грыба

## Першая, і асноўная

Канстытуцыя 1994 года, прынятая Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, стала вынікам больш чым трохгадовай праватворчай дзейнасці. У яе падрыхтоўцы прынялі ўдзел больш за 60 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, а таксама лепшыя юрысты краіны: навукоўцы і практыкі. Праца над праектам Канстытуцыі суправаджалася вялікімі дыскусіямі. Найбольшыя спрэчкі выклікала пытанне аб заснаванні пасады прэзідэнта рэспублікі. Нягледзячы на сур’ёзныя пярэчанні з боку апазіцыі, гэтая пасада ўсё ж такі была ўключана ў тэкст Канстытуцыі.

Канстытуцыя ўступіла ў сілу з дня яе апублікавання — з 30 сакавіка 1994 года. Спецыяльны закон вызначаў парадак уступлення ў сілу асобных палажэнняў Канстытуцыі. Дзень прыняцця Канстытуцыі аб’яўляўся святочным днём.

## Асновы канстытуцыйнага ладу

У юрыдычнай літаратуры канстытуцыйны лад разумеецца як «...такі дзяржаўны і грамадскі лад, які вызначаны дэмакратычнай Канстытуцыяй як асноўным законам краіны». Паводле Канстытуцыі, Беларусь аб’яўляецца ўнітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай.

Унітарная дзяржава — гэта значыць, што яна павінна быць адзінай па сваім адміністрацыйна-тэрытарыяльным ладзе. Яе складовыя часткі не павінны мець пераваг перад іншымі, але пры гэтым яны маюць права разлічваць на адносную самастойнасць пры вырашэнні пытанняў мясцовага характару.

Дэмакратычнай можа прызнавацца тая дзяржава, якая фармуецца ў выніку свабодных і сумленных выбараў і дзейнічае ў інтарэсах народа. Свой удзел у кіраванні справамі дзяржавы народ ажыццяўляе як непасрэдна (шляхам выбараў, рэферэндумаў, сходаў, зваротаў і г.д ), так і праз сваіх прадстаўнікоў (дэпутатаў, прэзідэнта, іншых упаўнаважаных асоб).

На ролю сацыяльнай можа прэтэндаваць тая дзяржава, якая забяспечвае грамадзянам умовы для годнага жыцця, клапоціцца аб іх здароўе, харчаванні, жыллі, працы, адпачынку, дзяцінстве, старасці. Пры гэтым забяспечанасць жыцця павінна адпавядаць агульнапрынятым стандартам.

Прававая дзяржава стала мадэллю сучаснай еўрапейскай дзяржавы. У такой дзяржаве ўсе яго органы і службовыя асобы павінны дзейнічаць у дакладнай адпаведнасці з заканадаўствам. Дзяржава ў асобе яе органаў і службовых асоб павінна паважаць і выконваць правы сваіх грамадзян. Калі правы грамадзян парушаюцца, то яны павінны мець эфектыўныя сродкі прававой абароны. У такой дзяржаве павінна дзейнічаць дэмакратычнае заканадаўства і прызнавацца прыярытэт нормаў міжнароднага права.

У Канстытуцыі замацоўваецца суверэнітэт Рэспублікі Беларусь як вяршэнства і паўната ўлады на сваёй тэрыторыі, а таксама права самастойна ажыццяўляць унутраную і знешнюю палітыку. На дзяржаву ўскладаецца абавязак абараняць незалежнасць і тэрыторыю краіны. Але да ліку найбольш важных асноў канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь належыць палажэнне аб статусе чалавека як вышэйшай каштоўнасці грамадства і дзяржавы.

Варта таксама звярнуць увагу на артыкулы 15 і 17 Канстытуцыі. У артыкуле 15 гаворыцца, што дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай спадчыны, свабоднага развіцця культур усіх нацыянальных супольнасцяй, якія пражываюць у краіне. А 17-ы артыкул замацоўвае ў якасці дзяржаўнай мовы беларускую, а руская мова з’яўляецца мовай міждзяржаўных зносін.

У артыкуле 18 Канстытуцыі зацвярджаюцца асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. Перад дзяржавай ставілася мэта — зрабіць тэрыторыю Беларусі без’ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай. З улікам гэтай мэты можна даць адказы на пытанні аб дапушчальнасці будаўніцтва атамнай станцыі, пра знаходжанне на нашай тэрыторыі расійскіх ваенных баз, аб магчымасці далучэння Беларусі да дамовы аб так званай калектыўнай бяспекі.

## Двоеўладдзе

Галоўнае месца ў сістэме органаў улады па Канстытуцыі 1994 года адводзілася Вярхоўнаму Савету. Ён абвяшчаўся найвышэйшым прадстаўнічым, стала дзеючым і адзіным заканадаўчым органам улады ў краіне. Вярхоўны Савет складаўся з 260 дэпутатаў, якія абіраліся тэрмінам на пяць гадоў.

Вярхоўны Савет надзяляўся шырокімі паўнамоцтвамі. У адпаведнасці з артыкулам 83 Канстытуцыі, ён прызначаў рэспубліканскія рэферэндумы, прымаў законы і ажыццяўляў кантроль за іх выкананнем. Ён таксама прызначаў выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета, мясцовых Саветаў, выбары прэзідэнта краіны. Да выключнай кампетэнцыі Вярхоўнага Савета адносілася фарміраванне Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, абранне Канстытуцыйнага суда, Вярхоўнага суда, Вышэйшага гаспадарчага суда, генеральнага пракурора, старшыні і чальцоў Кантрольнай палаты, старшыні і чальцоў Нацыянальнага банка.

На другім месцы пасля парламенту ў іерархіі дзяржаўных органаў размяшчаўся прэзідэнт. У адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі, ён аб’яўляўся кіраўніком дзяржавы і кіраўніком выканаўчай улады.

Прэзідэнт абіраўся шляхам прамых выбараў на пяць гадоў. Пры гэтым усталёўвалася, што адна і тая ж асоба не можа быць прэзідэнтам больш за два тэрміны запар. За захоп дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам або ўтрыманне ўлады больш за вызначаны тэрмін прадугледжвалася крымінальная адказнасць.

Прэзідэнту надаваліся паўнамоцтвы, не менш шырокія за парламенцкія. Яму даручалася кіраванне сістэмай органаў выканаўчай улады і забеспячэнне іх узаемадзеяння з прадстаўнічымі органамі (парламентам, мясцовымі Саветамі дэпутатаў). Моцным рычагом уплыву прэзідэнта на ўсю сістэму органаў улады стала права «са згоды Вярхоўнага Савета» прызначаць і вызваляць ад пасады прэм’ер-міністра, яго намеснікаў, міністраў замежных спраў, фінансаў, абароны, унутраных спраў, старшыні КДБ, іншых членаў Кабінета міністраў, а таксама прымаць адстаўку гэтых асоб. Акрамя таго, яму даручалася прадстаўляць Вярхоўнаму Савету кандыдатуры для абрання на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда, старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда, старшыні праўлення Нацыянальнага банка.

Прэрагатывай прэзідэнта стала прызначэнне ўсіх суддзяў, акрамя тых, абранне якіх адносілася да кампетэнцыі Вярхоўнага Савета. У далейшым гэта прывяло да страты самастойнасці судовай улады і падпарадкавання суддзяў усіх узроўняў структурам прэзідэнцкай улады.

У межах сваіх паўнамоцтваў прэзідэнт мог выдаваць указы і распараджэнні, арганізоўваць кантроль за іх выкананнем.

Варта адзначыць, што Канстытуцыя прадугледжвала магчымасць зняцця прэзідэнта з пасады «ў выпадках парушэння Канстытуцыі або здзяйснення ім злачынства». Але пры гэтым усталёўвалася даволі складаная працэдура: 1) пытанне магло быць пастаўлена па прапанове не менш як 70 дэпутатаў; 2) факт парушэння Канстытуцыі павінен быць пацверджаны рашэннем Канстытуцыйнага суда, а факт здзяйснення злачынства — спецыяльнай камісіяй Вярхоўнага Савета; 3) рашэнне Канстытуцыйнага суда або адмысловай камісіі Вярхоўнага Савета павінна было атрымаць ухваленне не менш 2/3 дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

**Дэмакратычнай можа прызнавацца толькі тая дзяржава, якая фармуецца ў выніку свабодных і сумленных выбараў і дзейнічае ў інтарэсах усяго народа**

Рэалізаваць такую працэдуру адхілення ад пасады прэзідэнта на практыцы аказалася немагчыма. Гэта паказала так званая справа «аб імпічменце», якая была пачата Канстытуцыйным судом Рэспублікі Беларусь незадоўга да правядзення лістападаўскага рэферэндуму 1996 года.

## Новая Канстытуцыя ці змененая?

Варта зазначыць, што, згодна з Канстытуцыяй 1994 года, нельга было прымаць новую Канстытуцыю шляхам рэферэндуму. Але можна было прыняць «змены і дапаўненні». Таму на ўсіх выданнях Асноўнага закона зараз напісана: «Канстытуцыя 1994 года са зменамі і дапаўненнямі, прынятымі на рэферэндуме 1996 года...». Але ці насамрэч гэта змены, ці фактычна новы дакумент?

Канстытуцыя 1994 года складаецца з прэамбулы і васьмі раздзелаў, якія ўключаюць у сябе 149 артыкулаў. «Папраўкі» ў Канстытуцыю змянілі не толькі змест многіх артыкулаў, але і назвы, і нават паслядоўнасць частак і раздзелаў.

У новай рэдакцыі Канстытуцыі раздзел IV мае назву: «Прэзідэнт. Парламент. Урад. Суд». І, адпаведна, раздзел пачынаецца з часткі 3 «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь». Частка 4 называецца «Парламент — Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь», частка 5 — «Урад — Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь», частка 6 — «Суд».

Асаблівасцю часткі 6 «Суд» стала тое, што ў яе ўключылі артыкул 116, прысвечаны статусу Канстытуцыйнага суда, выключыўшы адпаведныя нормы з тэксту Канстытуцыі.

Раздзел VI назвалі «Пракуратура. Камітэт дзяржаўнага кантролю». У выніку з Канстытуцыі былі выключаны згадка пра Кантрольную палату Рэспублікі Беларусь (гэта недапушчальна, паколькі толькі парламент мае права вызначаць лёс заснаваных ім органаў і абраных службовых асоб).

У новую рэдакцыю Канстытуцыі быў уключаны раздзел IX «Заключныя і пераходныя палажэнні». У ім утрымліваюцца даволі дзіўныя нормы. Напрыклад, у артыкуле 143 усталёўваецца, што ў месячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу «сапраўднай Канстытуцыі» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і прэзідэнт краіны фармуюць Палату прадстаўнікоў з ліку дэпутатаў Вярхоўнага Савета, выбраных да дня прызначэння даты правядзення рэферэндуму 1996 года.

Не менш дзіўным з’яўляецца змест артыкула 144 новай рэдакцыі Канстытуцыі, згодна з якой прэзідэнт захоўвае свае паўнамоцтвы. І тэрмін гэтых паўнамоцтваў лічыцца з дня ўступлення ў сілу «сапраўднай Канстытуцыі».

Варта таксама звярнуць увагу на тое, што ў выніку ўнясення паправак у Канстытуцыю агульная колькасць яе артыкулаў павялічылася (замест 146 стала 149). Як такое магло здарыцца, калі ў тэкст Канстытуцыі ўносіліся толькі «змены і дапаўненні»?

Відавочна, што выбаршчыкам прапанавалі для галасавання новую Канстытуцыю, у чым пазней прызналіся самі ініцыятары рэферэндуму. Але ж гэтага не дазваляла зрабіць Канстытуцыя 1994 года і дзеючае заканадаўства аб рэферэндуме.

Такім чынам, можна казаць, што Канстытуцыя 1996 года была створаная і прынятая з парушэннем законаў Рэспублікі Беларусь і не можа лічыцца дзеючай. Адзіная легітымная Канстытуцыя — гэта Канстытуцыя 1994 года.

**Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкуламі на сайце novychas.info.**

# Эрык Тэрк: Беларусі неабходна развіваць малы бізнэс і раскрываць транзітны патэнцыял краіны



**Дырэктар Эстонскага інстытуту даследавання будучыні, прафесар эканомікі Эрык Тэрк пагадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта НЧ Арцёма Лявы наконт перспектываў рэфармавання Беларусі.**

**Даведка:**

Эрык Тэрк — доктар эканамічных навук, прафесар эканомікі. Дырэктар Эстонскага інстытута даследавання будучыні. У 1998–2003 гадах з'яўляўся сябрам Назіральнай рады Банку Эстоніі. З 1993 па 1998 гады ачольваў Таварыства эстонскіх эканамістаў. Намеснік міністра эканомікі ва ўрадзе Эдгара Савісаара — першага прэм'ер-міністра незалежнай Эстоніі (1989–1992 гады).

***— Якія ў вас склаліся ўражанні ад наведвання нашай краіны? Наколькі нашае грамадства падобнае да еўрапейскага?***

— Калісьці, яшчэ ў савецкі час, я быў транзітам у мінскім аэрапорце. Мінск бачыў з вышыні птушынага палёту. У незалежнай Беларусі я бадай упершыню.

Калі грунтавацца на досведзе стасункаў з людзьмі, з якімі я бачыўся падчас гэтага кароткага візіту, то можна казаць, што вы блізкія да сучаснай Еўропы. Але калі на канферэнцыі я пачуў даклад вашага сацыёлага Алега Манаева, па некаторых прадстаўленых пазіцыях я зразумеў, што сацыяльная сітуацыя ўсё ж такі даволі істотна адрозніваецца.

***— Вы з'яўляецеся спецыялістам прагназавання эканамічнага развіцця Эстоніі і суседніх еўрапейскіх краінаў. У якім кірунку магла б, на вашу думку, развівацца Беларусь?***

— Я, на жаль, даволі мала ведаю пра Беларусь, таму мае меркаванні могуць быць дастаткова павярхоўнымі. Адзінае, я магу сказаць: інвестары, якія цяпер цікавяцца Эстоніяй, Латвіяй, Літвой, маглі б пачаць інвеставаць у Беларусь, калі б у вас палепшыўся бізнэс-клімат і агульны палітычны бэкграўнд. З геаграфічнага пункту гледжання ўсё гэта выглядае вельмі лагічна. І працоўная сіла Беларусі мае даволі высокую прамысловую культуру. Калі б я быў замежным інвестарам, і сітуацыя тут бы змянілася, я б адразу разглядзеў магчымасць інвеставання ў Беларусь. Другі аспект — гэта наяўнасць у Беларусі транспартных каналаў. Напрыклад, фінскі экспарт на поўдзень. Гэты паток мог бы павялічыцца. Праз Беларусь у Адэсу, Турцыю, Балканы... Гэта даволі перспектыўны накірунак з пункту гледжання лагістыкі.

***— Якія стратэгіі развіцця маглі б быць у Беларусі?***

— Я памятаю з 1992–1993 гадоў падчас рознага роду абмеркаванняў магчымасцяў супрацоўніцтва краін Балтыі, ствараліся мапы ў межах розных праграмаў, і там даволі часта Беларусь таксама фігуравала як партнёр. Але я не памятаў глыбокіх абмеркаванняў ролі Беларусі ў такой інтэграцыі, пакольі звычайна ад Беларусі не было афіцыйных прадстаўнікоў. Гэта былі мадэлі, намаляваныя фінамі альбо шведамі. Пазіцыі вашай краіны мы не чулі.

Ваша лёгкая прамысловасць у межах Еўрасаюза не мае патэнцыялу, бо гэтыя рэчы танней вырабляць у іншых краінах, і наўрад ці Беларусь пагодзіцца стаць краінай, дзе заробкі будуць вельмі нізкія, але ваша электроніка і машынабудаванне маюць пэўны патэнцыял для інтэгравання з еўрапейскімі рынкамі. Эстонія калісьці пачынала з субкантрактных работаў на шведскія і эстонскія фірмы. Паколькі кваліфікацыя працоўнай сілы была даволі высокая, а кошт вытворчага экспарту быў нашмат таннейшы, мы мелі замовы ад суседзяў і змаглі стрымаць рост беспрацоўя.

Беларусі вельмі важна арыентавацца на паляпшэнне ўмоў для малога бізнэсу. Гэта важна не толькі для развіцця ўнутранага рынка. Новыя малыя прадпрыемствы, прыкладам, у сферы электронікі і інфармацыйных тэхналогій, могуць пачаць экспартаваць свой прадукт на замежныя рынкі нават ад пачатку свайго стварэння.

***— Куды лепей інтэгравацца Беларусі з пункту гледжання эканомікі, у Еўропу альбо Расію?***

— Не варта абмяжоўваць магчымасці альбо-альбо. З геапалітычнага пункту гледжання гэта нявыгадна для Беларусі. Ваша краіна знаходзіцца ўсё ж такі паміж Усходам і Захадам. Калі глядзець на сённяшнюю сітуацыю, калі стасункі паміж Захадам і Расіяй пагаршаюцца, ідзе так званая «гульня з нулявой сумай». Для вас гэта кепская сітуацыя.

***— Як можа паўплываць крызіс паміж Расіяй і Украінай на эканамічнае развіццё іншых краін?***

— Уплыў гэтага крызісу на розныя краіны Еўрасаюза можа адрознівацца. Ён можа залежыць, напрыклад, ад таго, наколькі тая ці іншая краіна энергетычна залежная ад Расіі. Напрыклад, Эстонія здабывае энергію з мясцовых сланцаў. І толькі 11% экспарту ідзе ў Расію. Імпарт з Расіі яшчэ меншы. Канешне, санкцыі супраць Расіі створаць некаторыя нязручнасці для заходніх краін, але расійскі фактар для эканомікі ЕС не такі важны, як камусьці можа здавацца.

***— Для Беларусі пагоршыцца эканамічная сітуацыя ў звязку з украіна-расійскім крызісам, альбо наадварот з'явіцца акно магчымасцяў?***

— Наўрад ці ў звязку з гэтым геапалітычным крызісам сітуацыя ў Беларусі нейк палепшыцца. Магчыма, вы здолееце замясціць для Расіі некаторыя заходнія тавары. Але зразумела, што эканамічная сітуацыя ў Расіі ва ўмовах канфлікту з Захадам пагаршаецца, і сумняюся, што Расія будзе здольная ў такой сітуацыі на ранейшым узроўні датаваць Беларусь. Негатыўна будзе ўплываць на беларускую эканоміку і падзенне тавараабароту з Украінай. Шмат залежыць ад таго, што будзе з эканомікай Расіі, калі яна пойдзе на абвастрэнне стасункаў з Захадам. Я не бачу тут для яе асаблівых магчымасцяў, бо расійская эканоміка базуецца на нафце і газе, і хутка яе пераарыентаваць на іншыя рынкі не атрымаецца.

***— Якую мадэль развіцця магла б узяць Беларусь?***

— Ёсць многа ўніверсальных рэчаў, якія робяць краіны, што сталі на шлях рынкавых рэформаў, ёсць у кожнай краіны таксама і свая спецыфіка. Эстонія, напрыклад, — гэта даволі чысты ўзор ліберальнай рынкавай эканомікі разам з усімі плюсамі і мінусамі гэтай мадэлі. Нешта з нашага досведу можа мець для вас пэўны інтарэс. Вы можаце аналізаваць і іншыя даволі паспяховыя мадэлі, напрыклад, тыя, якія класіфікуюцца як «coordinated market economies» (Славенія) альбо гібрыды паміж гэтымі двума тыпамі (Чэхія). З блізкіх вам краін варта звярнуць увагу на Польшчу і Літву. Вы можаце разглядаць розныя варыянты, ацэньваць плюсы і мінусы, пазбегнуць некаторых памылак.

***— Ці магчыма ў Беларусі пабудаваць капіталізм без дэмакратыі?***

— У Еўропе гэта будзе зрабіць няпроста. Найперш, трэба вызначыцца, што такое беларуская эканоміка ў дадзены момант. Гэта дзяржаўны капіталізм альбо нейкі змешаны варыянт, капіталізм з нейкімі элементамі бюракратычнага сацыялізму? Заходнія эксперты не ўпэўненыя, што такі варыянт жыццяздольны ў перспектыве, наколькі ён увогуле эфектыўны і колькі пратрымаецца без, прыкладам, танных энерганосьбітаў. Я не веру ў гэта. Нават такія краіны, як Кітай, якія пачалі пераход на рынкавую эканоміку без палітычнай лібералізацыі, паступова набліжаюцца да агульных прынцыпаў існавання сучаснага грамадства.

## Падзеі ва Украіне і Расіі пагоршаць стан беларускай эканомікі

**З такой заявай выступіў старшыня місіі МВФ у Беларусі Дэвід Хофман. Місія Міжнароднага валютнага фонду пад яго кіраўніцтвам знаходзілася ў нашай краіне з 17 па 28 красавіка. Падчас візіту місія правяла сустрэчы з віцэ-прэм'ерам Пятром Пракаповічам, старшынёй Нацбанка Надзеяй Ермаковай, міністрам эканомікі Мікалаем Снапковым.**



Адказваючы на пытанне, як падзеі ва Украіне і Расіі могуць паўплываць на эканамічнае становішча Беларусі, Хофман адзначыў пагаршэнне сітуацыі для нашай краіны.




«Расія і Украіна з'яўляюцца вельмі важнымі гандлёвымі партнёрамі для Беларусі. Разам на долю гэтых краін прыходзіцца каля 50% экспарту для Беларусі. Таму складана сабе ўявіць, як рэзкае запавольванне росту, а ў выпадку з Украінай — і магчымы эканамічны спад, могуць не адбіцца на паказчыках экспарту Беларусі. Гэта што датычыць знешняга гандлю. А да таго ж, у Беларусі працуе шэраг даччыных банкаў расійскіх банкаў, а беларускія банкі абапіраюцца на ліквіднасць, што прадастаўляюць расійскія банкі. Таму можа назірацца важны эфект, які дзейнічае праз фінансавыя каналы», — сказаў Дэвід Хофман.

Таксама старшыня місіі заўважыў, што выдача чарговага крэдыту МВФ для Беларусі падчас гэтага візіту не разглядалася. Па словах Хофмана, эканамічная палітыка, якую рэкамендаваў МВФ, моцна адрозніваецца ад той, якую праводзіць беларускае кіраўніцтва.

# Батальён «Данбас–1»



Зміцер ГАЛКО

**Разам са сваімі калегамі з Францыі, Канады і ЗША я адправіўся ў Краснаармейск — мястэчка ў 70 кіламетрах на паўночны захад ад Данецку, на мяжы з Днепрапятроўшчынай. Адтуль нас мусілі адвезці ў размяшчэнне батальёну «Данбас–1».**

«Данбас–1» — нядаўна створанае ваенізаванае фармаванне з патрыятычна настроеных добраахвотнікаў, мэтай якога з'яўляецца супрацьдзеянне захопам адміністратыўных будынкаў, выкраданням людзей ды іншай крымінальнай актыўнасці, звязанай з сепаратысцкім рухам на Данбасе.

### «Гэтыя бандэры ўжо зусім а..елі!»

Калі не лічыць таго, што нам давялося стаяць чыгуначны квіток з электрычцы, пад завязку забітай людзьмі, якія кіраваліся на могілкі і лецішчы, да самога Краснаармейску мы дабраліся без праблемаў. Але ў Краснаармейску пачалася гісторыя з дэтэктыўным прысмакам.

Пачуўшы замежную мову, ніводзін таксіст на вакзале не пагадзіўся нас везці. Мы стэлефанаваліся з нашым каардынатарам з батальёну «Данбас–1», ён параіў даехаць маршруткай да нейкай запраўкі на ўскраіне мястэчка, знайсці тут машыну і чакаць яго далейшых указанняў.

Таксі тут было толькі адно — старэнькая «Волга», якая ўжо ад'язджала. Мы не адразу заўважылі, што там сядзіць пасажырка, і спынілі машыну. Нечакана вадзіцель праявіў моцную зацікаўленасць: «А-а, вы тыя самыя карэспандэнты!». І радасна пацёр рукі. Зацікаўленасць настолькі моцную, што нават выставіў сваю пасажырку. Потым, калі жанчына паскардзілася ягонаму начальству, яго адчыталі па поўнай, але ён проста іх «пасылаў».

Я першым сеў у машыну, мае калегі заставаліся на вуліцы, як раптам вадзіцель выпаліў: «Гэтыя бандэры ўжо зусім а..елі!» Вадзіцель — каржакаваты лысы мужчына гадоў сарака пяці ў чырвонай майцы з надпісам BODY, з шклянымі карымі вачыма, тварам, падобным да твару Мікалая Валуева, шматлікімі шнарамі, «вазелінавымі» кулакамі і рэзкімі баксёрскімі рухамі — выглядаў пагрозліва. Здавалася, што ён у любую хвіліну гатовы кінуцца на нас.

«Можа, гэта звыклы спосаб пачаць размову ў гэтых мясцінах», — паіранізаваў амерыканскі журналіст, калі я выскачыў з машыны, каб сказаць хлопцам, што з гэтым вадзіцелям, магчыма, не трэба ехаць. Аднак напружыўся. Хутка ён напружыўся яшчэ болей, бо нам патэлефанавалі, сказалі, што бачаць нас каля старэнькай «Волгі», загадалі сядаць туды і следаваць за іншай машынай. «Таксіст настроены вельмі прарасійскі, можа, варта знайсці іншага?» — пытаемся мы. Калі нам адказалі, што нічога страшнага, сядайце да яго, амерыканец не вытрымаў: «Хлопцы, звальваем адсюль! Тут адбываецца нешта дзіўнае».

Але журналісцкая цікаўнасць перамагла.

### Вызваліцель Данбасу

Па дарозе таксіст, які назваўся Андрэем Габжылай, распавёў, што ён актыўны ўдзельнік «руху за вызваленне Данбасу» (азначэнне «сепаратыст» яму не падабаецца), больш за тое, ад самага пачатку да канца стаяў у Марыінскім парку на кіеўскім Антымайдане, і цяпер гатовы са зброяй у руках ваяваць з тымі, хто «сунецца на Данбас».

Калі б не ягоная агрэсіўнасць і крымінальныя замашкі, можна было б сказаць, што ён даволі адэкватны чалавек. Нічога цемрашальскага ці фантастычнага ў поглядах. Скаргі на нізкую якасць жыцця і нежаданне цэнтру прыслухоўвацца да жыхароў паўднёва-ўсходняга рэгіёну. Патрабаванне большай эканамічнай і культурнай аўтаноміі. Бо рэгіёну патрэбныя грошы для развіцця сацыяльнай інфраструктуры, якія, на яго погляд, зараз застаюцца ў Кіеве. Януковіча ён лічыць здраднікам, але не варта было спяшацца яго зрынаць — трэба было дачакацца выбараў. Новая ўлада нелегітымная, бо ўсталяваная сілай, без уліку меркавання Данбасу. У заходнім свеце шмат вартага перайманія, напрыклад, там не робіцца мільярдэрамі за пяць гадоў на высокіх пасадах ва ўладзе, аднак там, па-першае, жывуць незнаёмыя людзі, а па-другое, нікому не патрэбная мясцовая прамысловасць. З Расіяй жа ваяваць нельга, бо ў Расіі «усе сваякі і сябры». Але ўваходзіць у яе склад няма чаго, ён за адзіную Украіну.

Сваёй прамовай яму ўдалося заспакоіць амерыканскага журналіста, той нават пачаў ківаць на знак разумення. «Не sounds quite reasonable (Ён гаворыць даволі разумныя рэчы)», — падагульніў мой калега.

Але ёсць адно «але», якое перакрэслівае ўсю адносную адэкватнасць сказанага Андрэем Габжылам — ён лічыць, што ва Украіне зараз ідзе грамадзянская вайна. Чаму перакрэслівае? Бо ўсе прэтэнзіі і крыўды, якія ён агучваў, тычыліся цэнтральнай улады. Барацьба супраць улады за свае інтарэсы — нармальны стан грамадзяніна свабоднай краіны. Калі ж гэта грамадзянская вайна — хто з кім і за што вае?

На ўзроўні грамадзян Украіна зараз падзеленая толькі паводле адной прыкметы — стаўлення да пагрозы акупацыі мацерыковай часткі краіны расійскай арміяй і далучэння яе да Расійскай Федэрацыі. Усе астатнія рознагалоссі не настолькі істотныя, каб немагчыма было дамовіцца. І ўдзельнічаць у грамадзянскай вайне могуць толькі тыя, хто чакае на рускія танкі. Каму агідна само існаванне Украіны.



Захар сабраў хлопцаў для трэніроўкі



Андрэй Габжыла і Сяргей Яромін

**Адзінае, у чым моцна памыляюцца людзі, якія бяруць удзел у федэралісцкіх акцыях, дык гэта ў тым, што яны дзейнічаюць самастойна. Насамрэч, іх выкарыстоўвае ў сваіх мэтах знешняя сіла**

Калі нехта далучаецца да іх з-за таго, што Кіеў нібыта хоча «адмяніць 9 мая» ці з-за жадання вярнуць у вяшчальную сетку расійскія тэлеканалы, гэтага чалавека нельга назваць інакш, як заблуканым. Пакладзіце на адны шалі вагаў расійскія тэлеканалы і сваточны парад, а на другія — трупы студэнта і дэпутата са слядамі катаванняў, знойдзеныя ў ваколіцах Славянска, ці змучаных байцоў «Альфы», якіх дэманстравалі расійскаму тэлебачанню бавякі. Абсурд будзе відавочным.

Працягваць выступаць пад сцягамі так званай «Данецкай народнай рэспублікі» пасля ўсяго гэтага — значыць, быць або маральна скалечаным чалавекам, або чалавекам беспрасветна цёмным.

### «Эх, Пуцін, Пуцін...»

Ніхто з камандзіраў і байцоў батальёну «Данбас–1» не прыйшоў сюды з прычыны пагарды да ідэалаў, калі ў гэтым выпадку можна казаць пра ідэалы, федэралістаў. Расійскія тэлеканалы спрабавалі па-ашуканску выдаць іх за ваенізаванае фармаванне «Правага сектару», але я не пабачыў ніводнай прыкметы сувязі паміж імі.

Яны кінулі свае сем'і і справы, узяўшы ў рукі зброю, праз жаданне выканаць на Данбасе функцыю, якую мелася б выконваць дзяржава, але не ў стане гэта зрабіць — спыніць распаўзанне крымінальнага бязладдзя па тэрыторыі рэгіёна. Зусім не для таго, каб падпарадкаваць кагосьці, навязаўшы пэўны лад жыцця. Проста аднавіць мір на сваёй зямлі, адкуль родам большая частка добраахвотнікаў.

«Адзінае, у чым моцна памыляюцца людзі, якія бяруць удзел у федэралісцкіх акцыях, дык гэта ў тым, што яны дзейнічаюць самастойна. Насамрэч, іх выкарыстоўвае ў сваіх мэтах знешняя сіла, чые інтарэсы не маюць нічога супольнага з тым, чаго жадаюць яны», — кажа камандзір батальёна Сямён Сяменчанка.

«Эх, Пуцін, Пуцін... Мне зараз сеяць трэба, а трактар прастойвае. Толькі я не хачу, каб у маім новым доме паўтарылася тое, што адбылося на маёй радзіме», — тлумачыць сваё далучэнне да батальёну грузін Захар, 55-гадовы ўраджэнец Сухумі, якому калісьці ўжо давялося ваяваць з Расіяй, потым збягаць ад вайны ва Украіну, дзе ён завёў сям'ю і нарадзіў дзяцей. Цяпер ён прыйшоў сюды, каб вучыць маладых хлопцаў рукапашнаму бою і выжыванню.

«Мы зусім не супраць Расіі, я сам рускі чалавек, але супраць злачынстваў, якія робяцца пад расійскімі сцягамі», — падкрэслівае Сяргей Яромін, начштаба батальёна.

Хлопцы ж гавораць пра тое, што не маглі проста назіраць за тым, як слабая дзяржава «злівае» ўсё нахабным крымінальнікам.

Яны лічаць сябе добраахвотнымі абаронцамі, але ні ў якім разе не ўдзельнікамі грамадзянскай вайны. Бо ім няма чаго ваяваць са сваімі землякамі. Яны ўпэўненыя, што ў мірным жыцці ўсе рознагалоссі можна вырашыць праз размову тварам да твару, а галоўная прычына непаразуменняў — гэта няведанне.

### Хто тут насамрэч «ветлівыя людзі»?

Менавіта таму Сяргей Яромін дазволіў нам прыехаць з прарасійскі настроеным таксістам. Ён доўга размаўляў з ім, і казаў з усмешкай, што той «ужо амаль гатовы да нас далучыцца». Але калі Андрэй Габжыла застаўся ля КПП без яго апекі, нешта пайшло не так. Мой амерыканскі калега прыбег да мяне: «Нельга ехаць з ім назад, ён з'ехаў з глузду — пагражаў падпаліць вайсковую частку, перадаваў па тэлефоне камусьці звесткі пра яе. Я заплаціў яму абяцаныя грошы, таму мы можам проста з ім развітацца, і ўсё. Невядома, куды ён нас завязе».

Сапраўды, лепей развітацца, вырашыў я, бо па дарозе сюды ён настойліва прапаноўваў заехаць паглядзець «іхныя блокпосты». І ў машыне ў яго было два нажы, якія ён нам дэманстраваў.

Андрэй развітацца і з'язджаць без нас не хацеў, патрабаваў яшчэ грошай. Далі яшчэ. Агулам атрымалася болей, чым сума, аб якой мы загадзя дамаўляліся. Але ён працягваў шумець і сварыцца. Каб суняць скандаліста, да яго падышоў Захар. Таксіст ускіпеў і пачаў брыкацца. Урэшце яго ўзялі пад рукі і адвялі ў будынак КПП. Наўздагон амерыканскі журналіст папрасіў, каб з яго тэлефона на ўсялякі выпадак выдалілі нашы здымкі, якія ён рабіў нібыта на памяць.

Прадстаўнікі батальёну адразу ж выклікалі СБУ і міліцыю, каб праверылі, што ён за фрукт.

Падчас размовы з Андрэем Габжылам, якая доўжылася каля гадзіны, па словах Сямёна Сяменчанкі, высветлілася, што таксіст хацеў адвезці нас на прарасійскі блокпост, дзе б нас узялі ў закладнікі і перадалі ў Краматорск. Раней ён ужо нібыта затрымліваўся за падобныя дзеянні. Таксама на яго тэлефоне знайшлося «шмат цікавага», у тым ліку кантакты ў Расіі і сведчанне існавання сеткі таксістаў, якія працуюць на прарасійскія сілы.

Але гаворка не пра тое. Гэты эмацыйны сепаратыст быў затрыманы акурат у той самы дзень, калі з'явілася відэа змучаных байцоў «Альфы», якіх дэманстравалі расійскаму тэлебачанню. Некаторыя мае сябры і сваякі ў фэйсбуку перажывалі, што Габжылу могуць закатаваць у адплату. Вельмі прасілі, каб я прасачыў за яго лёсам, і выратаваў, калі спатрэбіцца. Толькі мне не давялося асабліва сачыць за ім — таксіста адпусцілі ў той самы дзень. Адразу ж пасля таго, як ён даў тлумачэнні праваахоўнікам.

Яшчэ каму-небудзь трэба тлумачыць, хто тут насамрэч «ветлівыя людзі», а хто — азвярэлыя садысты?

TV

## 9 МАЯ, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**07.35** Гераічная камедыя «Нябесны ціхаход».
**08.55** Eurovision. Без каментароў.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10, 10.40** «Беларускі вакзал».
**09.55** Урачыстае шэсце ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.
**11.35, 12.10** «У бой ідуць адны старыя».
**13.15** Урачысты сход і святочны канцэрт.
**13.05** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія). Заключныя серыі.
**15.30** Eurovision. Без каментароў.
**15.35** Ваенная драма «Не пакідай мяне» (Расія).
**17.55** Хвіліна маўчання.
**18.40** Біяграфічны фільм «Легенда № 17» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Камедыя «Пяць нявест» (Расія).
**23.45** «У бой ідуць адны старыя».
**01.15** Чэмпіянат свету па хакеі -2014. Агляд дня.
**01.35** Дзень спорту.
**01.40** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Канцэрт Алены Ваенгі. «Ваенныя песні».
**09.55** Урачыстае шэсце ветэранаў вайны.
**10.40** Маст. фільм «Дыверсант. Канец вайны».
**13.00** Нашы навіны.
**13.10** Мастацкі фільм «Дыверсант. Канец вайны».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Мастацкі фільм «Дыверсант. Канец вайны».
**17.55** Хвіліна маўчання.
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Мастацкі фільм «Дыверсант. Канец вайны».
**18.35** «Сляды апосталаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.55** Прэм'ера. «Не пакідай мяне». Мастацкі фільм.



**23.55** «У бой ідуць адны старыя».

### СТВ

**06.05** Мастацкі фільм «Пра тых, каго памятаю і кахаю».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** Дажыць да Перамогі!
**09.00** Гарачы лёд.
**09.20, 10.55** Святочны канцэрт.
**09.55** Урачыстае шэсце ветэранаў.
**12.30** Шай-бу!
**13.30** «24 гадзіны».
**13.55** Што з намі робіць хакей.
**14.55** Фільм «Жэня, Женечка і Кацюша». СССР.
**16.30** «24 гадзіны».
**17.00, 18.00** Фільм «Дарагі мой чалавек».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.45** Фільм «Ворагі».
**22.30** «24 гадзіны».
**23.15** «СТБ-спорт».
**23.20** Фільм «Яшчэ пра вайну».
**00.20** Вялікая гульня. Покер.

### Беларусь 2

**07.15** «У жніўні 44-га...» Фільм.
**09..15, 20.35** Тэлебарометр.
**09.20** Мастацкі фільм «Глыбокая плынь».
**10.55** Урачыстае шэсце ветэранаў вайны.
**11.40** «Прывітанне ад Кацюшы». Серыял.
**14.45** Імперыя песні.
**15.50** Рэпарцёр.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Францыя – Канада.
**19.05** «Аты-баты, ішлі салдаты...».
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь – ЗША.
**21.15** КЕНО.
**23.00** Мастацкі фільм «Ваўкі».
**00.50** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.

### Беларусь 3

**07.35** «Калейдаскоп».
**07.45** «Сімвалы эпохі». «Вечны агонь».
**07.55** «Галасы з мінулага». 90 год з дня нараджэння Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Булата Акуджавы, расійскага пісьменніка і паэта, аднаго са стваральнікаў жанра аўтарскай песні.
**08.05** «Разведчыкі». Мастацкі фільм.
**09.20** «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**09.55** Урачыстае шэсце ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і ўскладанне вянкоў да манумента Перамогі.
**10.40** Гала-канцэрт XVII тэлевізійнага фестываля армейскай песні «Звязда».
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Сімвалы эпохі». «Вечны агонь».
**12.40** «Доўгія вёрсты вайны». Мастацкі фільм паводле аповесцяў Васіля Быкава. Фільм першы «Жураўліны крык».
**14.00** «Доўгія вёрсты вайны». Мастацкі фільм паводле аповесцяў Васіля Быкава. Фільм другі «Атака з ходу».
**15.05** «Доўгія вёрсты вайны». Мастацкі фільм паводле аповесцяў Васіля Быкава. Фільм трэці «На ўзыходзе сонца».
**16.15** «Калейдаскоп».
**16.25** «Сімвалы эпохі». «Вечны агонь».
**16.35** «Галасы з мінулага». 90 год з дня нараджэння Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Булата Акуджавы, расійскага пісьменніка і паэта, аднаго са стваральнікаў жанра аўтарскай песні.
**16.45** «Залаты шлягер-97». Песні Булата Акуджавы.
**17.55** «Мінута маўчання». Светлай памяці загінаўшых у барацьбе супраць фашызму.
**18.00** «Чаклун і Румба». Мастацкі фільм паводле аднайменнай аповесці Яўгена Анапрыенкі.
**19.25** «Вызваленне». Мастацкі фільм. Фільм чацвёрты. «Бітва за Берлін».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Вызваленне». Мастацкі фільм. Фільм пяты. «Апошні штурм».



**22.25** «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**23.00** «Поклонимся великим тем годам!». Песні ваенных гадоў у выкананні Уладзіміра Александровіча.
**00.10** «Калейдаскоп».
**00.15** «Сімвалы эпохі». «Вечны агонь».
**00.30** «Галасы з мінулага». 90 год з дня нараджэння Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Булата Акуджавы, расійскага пісьменніка і паэта, аднаго са стваральнікаў жанра аўтарскай песні.

### НТВ

**06.25, 08.20** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**10.50** Мастацкі фільм «Ягорушка».
**12.25** Дзень Перамогі.
**13.20** Прэм'ера. «Бітва за Крым».
**14.25, 18.00, 19.20** Серыял «Кодэкс гонару».
**17.55** Хвіліна маўчання.
**21.25** Мастацкі фільм «Двое».
**23.00** Ваенная драма «Рабінавы вальс».
**00.50** «Авіятары».

### БЕЛСАТ BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**11.20** «Анатомія ад'езду», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**12.35** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 1–3.
**14.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.10** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Берлін-45».
**15.55** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**16.40** «Анатомія ад'езду», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**18.00** «Ранча», серыял: 52 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.05** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм, 2011 г., Літва.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Лыжачка жыцця», дак. фільм, 2004 г., Польшча.
**21.40** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Святлана Уланоўская: крытык – пра сучасны танец.
**22.10** «Бывайце, дзеці...», маст. фільм, 1987 г., Францыя.
**23.55** «Золата дэзерціраў», маст. фільм, 1998 г., Польшча.

## 10 МАЯ, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.20** Існасць.
**06.50** Біяграфічны фільм «Легенда № 17» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Дача.
**12.10** Даверай і правярай.
**12.50** Здароўе.
**13.35** Журналісцкае расследаванне.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Нашы.
**15.45** Даверай і правярай.
**16.15** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.20** «Беларускі вакзал».
**19.10** Меладрама «Начны госць» (Расія).



**21.00** Панарама.
**22.00** Міжнародны конкурс песні «Еўрабачанне-2014». Фінал.
**01.00** Чэмпіянат свету па хакеі -2014. Агляд дня.
**01.20** Дзень спорту.
**01.30** Камедыйны серыял «Сваты 3».
**02.25** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** Смак.
**11.05** «Леанід Быкаў. «Будзем жыць».
**13.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Мультфільмы.
**13.30** «Пакроўскія вароты». Мастацкі фільм.



**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.35** АНТ прадстаўляе «Бацькоў у школу».
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Якраз як».
**23.55** Мастацкі фільм «Бездань».

### СТВ

**06.00** Сакрэтныя тэрыторыі.
**06.45** Анфас.
**07.00, 09.10, 12.35, 13.40, 17.35** «Сямнаццаць імгненняў вясны». Серыял.
**09.00** «Гарачы лёд».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**18.35** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10, 20.40** Фільм «Сляды апосталаў».
**20.30** «Гарачы лёд».
**22.35** Таемны горад.

### Беларусь 2

**07.00** «Прывітанне ад Кацюшы». Серыял.
**10.20, 19.10** Тэлебарометр.
**10.25** Кулінарная праграма.
**11.00, 23.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Італія – Нарвегія.
**15.00** Вышэй за дах.
**15.35** Імперыя песні.
**16.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Швецыя – Данія.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**20.40** Хакей. Канада – Славакія.
**21.15** КЕНО.
**00.25** Мастацкі фільм «Глыбокая плынь».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Сімвалы эпохі». Збор макулатуры.
**08.20** «Сіла веры».
**08.45** «Вызваленне». Мастацкі фільм. Фільм чацвёрты. «Бітва за Берлін».



**10.05** «Вызваленне». Мастацкі фільм. Фільм пяты. «Апошні штурм».
**11.20** «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**11.55** «Наперад у мінулае».
**12.20** «Наперад у мінулае». Спецыяльны выпуск, прымеркаваны да «Еўрабачання».
**12.45** «Калейдаскоп».
**12.55** «Сімвалы эпохі». Збор макулатуры.
**13.05** «Два Фёдары». Мастацкі фільм.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.35** Мультфільмы.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.00** «Сімвалы эпохі». Збор макулатуры.
**15.15** «Чаклун і Румба». Мастацкі фільм паводле аднайменнай аповесці Яўгена Анапрыенкі.
**16.35** «Размаўляем па-беларуску».
**16.40** «...І кружыцца планета Куляшова». Дакументальны фільм пра народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.
**17.05** «Калейдаскоп».
**17.10** «Дні Турбіных». Мастацкі фільм паводле рамана Міхаіла Булгакава «Белая гвардыя».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Апошні рэйд».
**23.30** «Сіла веры».
**23.55** «Быль і небыль пра маршала Ракасоўскага». Дакументальны фільм.
**0.40 «Калейдаскоп».**
**0.45 «Сімвалы эпохі». Збор макулатуры.**

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** «Таямнічая Расія».
**14.05, 19.20** Серыял «Кодэкс гонару».
**21.00** Баявік «Пацалунак у галаву».
**22.55** Баявік «Карнік».
**15.55, 19.20** Дэтэктыўны серыял «Ціхае паляванне».
**00.55** «Авіятары».

### БЕЛСАТ BELSAT

**07.00** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм, 2011 г., Літва.
**08.30** ПраСвет.
**08.50** Аб'ектыў.
**09.05** «Лыжачка жыцця», дак. фільм, 2004 г., Польшча.
**09.30** Зоры не спяць: Святлана Уланоўская: крытык – пра сучасны танец.
**10.00** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.35** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 11 серыя.
**11.05** Два на два (тэледыскусія).
**11.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.25** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**13.25** «Золата дэзерціраў», маст. фільм, 1998 г., Польшча.
**15.20** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**16.15** «Бывайце, дзеці...», маст. фільм, 1987 г., Францыя.
**17.55** Беларусы ў Польшчы.
**18.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.35** Фітнес-шмітнес.
**18.55** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Што такое руская мова ВКЛ?.
**19.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.30** «Горад з Мора», серыял: 1 серыя.
**20.15** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Глыбоцкая змова», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**22.00** Суботні сеанс: «Падзенне», маст. фільм, 2004 г., Германія.
**00.30** «Жыццё ў лепшым свеце», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**01.25** Аб'ектыў.

TV

## 11 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Камедыя «Пяць нявест» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 3».



**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Журналісцкае расследаванне.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**15.50** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.05** Прэм'ера. Драма «Трэцяя сусветная» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыя «Мой хлопец - псіх!» (ЗША).
**00.25** Чэмпіянат свету па хакеі -2014. Агляд дня.
**00.50** Камедыйны серыял «Сваты 3».

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Вясельны перапалох.
**12.15** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.15** Усім сэрцам – раз і назаўжды.
**14.15** Мастацкі фільм «Каханне зямное».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.35** Вялікі святочны канцэрт.
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Дыханне планеты.
**21.40** Фінал конкурсу прыгажосці. Містар Беларусь -2014.
**23.10** Мастацкі фільм «Выпадковы раман».

### СТВ

**06.25** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.15, 09.10, 12.45, 14.30, 16.50** «Сямнаццаць імгненняў вясны». Серыял.
**08.30** «Аўтапанарама».
**09.00** «Гарачы лёд».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Гарачы лёд».
**20.50** Фільм «Радзіма ці смерць»..
**23.15** «Таемны горад». Серыял.

### Беларусь 2

**07.15** «Аты-баты, ішлі салдаты…».
**08.45,16.40** Тэлебарометр.
**08.50** Заўтра – гэта мы!
**09.15** Беларуская кухня.
**10.00** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.35, 23.05** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**12.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Францыя – Італія.
**15.05** Аўтабатл.
**15.40** Стыль-бюро.
**16.20** Кіпень.
**17.25** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь – Казахстан.
**19.45** Суперлато.
**20.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Швецыя – Чэхія.
**21.15** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**00.50** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Глеба Паўлавіча Глебава.
**08.15** «Дні Турбіных». Мастацкі фільм паводле рамана Міхаіла Булгакава «Белая гвардыя».
**11.45** «Калейдаскоп».
**11.55** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Глеба Паўлавіча Глебава.
**12.00** «Быль і небыль пра маршала Ракасоўскага» Дакументальны фільм.
**12.45** «Нацыянальная трылогія: гімн, герб, сцяг». Дакументальны фільм пра гісторыю стварэння гімна, герба, сцяга Рэспублікі Беларусь.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Глеба Паўлавіча Глебава.
**13.40** Арам Хачатуран. «Спартак». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.
**15.25** «Калейдаскоп».
**15.30** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Глеба Паўлавіча Глебава.
**15.35** «Непаўторны талент». Жыццё і творчасць народнага артыста Беларусі Г.П.Глебава.
**16.05** Мультфільм.
**16.10** «Наперад у мінулае».
**16.40** Дзіцячы фільм. «Іван Макаравіч».
**18.00** «Культпрасвет».
**18.30** Сусветнае кіно. «Апошні рэйд».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** «За любімую Беларусь!». Канцэрт ансамбля «Сябры» з удзелам С.Герасімава, Аляксея Хлястова, Пятра Ялфімава, Паліны Смолавай, Алесі, гурта «Тяни-Толкай».
**22.45** «Культпрасвет».
**23.10** «Здурнелы Журдэн». Спектакль Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра па пьесе М.Булгакава.
**00.25** «Калейдаскоп».
**00.30** «Галасы з мінулага». 115 год з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Глеба Паўлавіча Глебава.

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** Цуд тэхнікі.
**11.20** Паедзем, паямо.
**11.55** «Дачны адказ».
**13.15** «Таямнічая Расія».
**14.05, 19.20** Серыял «Кодэкс гонару».
**21.00** Мастацкі фільм «Смерш... Легенда для здрадніка».
**23.10** «Школа зласлоўя».
**00.15** «Авіятары».

### БЕЛСАТ

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 3 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Беларусы ў Польшчы.
**09.10** Рэмарка (культурніцкая праграма) Тэма вайны ў творчасці сучаснікаў.
**09.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Невядомая Беларусь: «Глыбоцкая змова», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**11.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**11.50** «Жыццё ў лепшым свеце», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**12.45** Фітнес-шмітнес.
**13.05** «Дэфект», тэлесерыял: 5 серыя.
**14.00** «Падзенне», маст. фільм, 2004 г., Германія.
**16.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Што такое руская мова ВКЛ?
**16.40** «Горад з Мора», серыял: 1 серыя.
**17.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**19.15** Форум (ток-шоу): Урокі Майдану. Што рабіць беларусам?
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** Дакументальная гадзіна: «ГУЛаг», дак. фільм: 2 серыя.
**21.30** Фільматэка майстроў: «Рычард III», гістарычная драма, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія–Канада.
**23.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Святлана Уланоўская: крытык – пра сучасны танец.
**23.45** Форум (ток-шоу): Урокі Майдану. Што рабіць беларусам?

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Гітлер і казахі

Алег НОВІКАЎ

**Постаць фюрэра Трэцяга рэйху актыўна выкарыстоўваецца удзельнікамі еўразійскай інтэграцыі.**

Здавалася, даўно ўжо прайшлі часы перабудовы, калі шматлікія медыя спецыялізаваліся на тым, што адчынялі белыя плямы гісторыі. Цяпер адкапаць гістарычную сенсацыю не так проста. Тым больш, калі справа тычыцца такой даследаванай гісторыкамі фігуры, як Адольф Гітлер. Між тым, з'яўленне ў шапіках красавіцкага выпуску казахскамоўнага часопіса «Аңыз адам» (Чалавек-легенда), тэмай якога быў жыццёвы шлях фюрэра, стала бомбай. Ужо другі тыдзень фашысцкі дыктатар і яго спадчына — адна з самых топавых тэм у казахстанскай грамадскай дыскусіі.

Выданне апавядае пра жыццё Гітлера, прыводзіць мемуары яго сябра, а таксама прапануе ўрывак з «Mein Kampf». Нумар шчодра ўпрыгожаны выявамі Гітлера розных этапаў яго жыцця. Таксама прыводзяцца біяграфіі фашысцкіх дыктатараў, у тым ліку Беніта Мусаліні, а таксама змагароў з імі — Іосіфа Сталіна, Уінстана Чэрчыля, Франкліна Рузвельта і Шарля дэ Голя. Аднак сапраўдный разынкай выпуску сталі каментары, напісаныя казахскімі журналістамі. Іх назвы гавораць самі за сябе: «У «Mein Kampf» многія моманты былі напісаныя правільна», «Гітлер — не фашыст», «У некаторых сваіх дзеяннях Пуцін, здаецца, пераплюне Гітлера» і г.д. Застаецца сказаць, што наклад выдання — 25,2 тысячы асобнікаў.




**Казахскі праваабаронца Андрэй Грышын пракаментаваў сітуацыю для НЧ:**

— Наогул, можна было б выказаць версію, што гэта спланаваная кімсьці правакацыя, калі б не ведаў рэдактара гэтага часопіса і сітуацыю з выданнем. Не так даўно рэдактар у п'яным выглядзе пабіўся ў самалёце са сцюардэсай, прычым зачапіўся за тое, што яна яму адказала па-руску. За хуліганства рэдактар адседзеў у спецпрыёмніку, але выйшаў героем для нацыянал-патрыётаў. Цалкам магчыма, што спадар Калыбай вырашыў забіць двух зайцоў — падняць тыраж і нагадаць пра сябе. Трэба сказаць, што абедзве задачы выкананы. Хаця ў прынцыпе магла паўдзельнічаць у правакацыі і ўлада, каб трошкі панерваваць Маскву напярэдадні ўступлення ў Еўразійскі саюз. У такім выпадку яны знайшлі самую лепшую кандыдатуру для правакацыі.

Першымі, як і трэба было чакаць, абурыліся ветэранскія арганізацыі, афганцы і патрыёты. 21 красавіка ў адным з паркаў Алма-Аты яны на знак пратэсту нават публічна спалілі экземпляр скандальнага выпуску. На іх думку, мы маем справу са спробай рэвізіі гісторыі, рэабілітацыі фашызму. Не засталося ўбаку і расійскае пасольства, якое ўручыла ноту пратэсту казахскім дыпламатам. Апошнім прышлося паабяцаць Маскве разабрацца з выдаўцамі «Аңыз адам»

Па словах яго рэдактара Жарылкапа Калыбая, выбар тэмы нумара абгрунтоўваецца двума прычынамі: «Першая (прычына) — мы хочам паказаць што, калі ў кіраўніцтве дзяржавы невядома адкуль выпадкова з'явіцца чалавек, падобны на А. Гітлера, то народ, які пойдзе за ім, патрапіць у пастку». У якасці другой прычыны Калыбай называе жаданне «зберагчы нас ад небяспечнай палітыкі кіраўніка суседняй краіны — Расійскай імперыі, які адраджае нацысцка-шавіністычную ідэю зноў».

Радыкальныя казахскія нацыяналісты дружна сталі на падтрымку рэдактара, якому, дарэчы, за тую публікацыю пагражае да 12 гадоў зняволення. Нацыяналісты зацікаўленыя ў пераглядзе гістарычных вынікаў Другой сусветнай вайны, намагаюцца ўзняць тэму, на іх думку, неапраўданага ўдзелу казахскага народа ў гэтым супрацьстаянні на баку СССР. Паралельна яны займаюцца гераізацыяй жаўнераў Туркестанскага легіёну СС.

Вайна гістарычных школ даўно вядзецца ў Казахстане. Аднак на гэты раз  інтарэс да яе значна большы і, відавочна, звязаны з палітычнай сітуацыяй. Перш за ўсё, гэта падзеі ва Украіне, якія сярод іншага засведчылі правал казахскай афіцыйнай прапаганды.

На днях у Казахстане прайшлі першыя сацыялагічныя апытанні наконт стаўлення тубыльцаў да падзей ва Украіне. Некаторыя палітолагі называюць іх вынікі сенсацыйнымі: 62 працэнты рэспандэнтаў падтрымліваюць у цяперашнім расійска-ўкраінскім канфлікце Маскву і толькі 5 працэнтаў — Украіну. Пры гэтым, паводле тых жа апытанняў, большасць (68 працэнтаў) выступае супраць расійскай акупацыі Казахстану.

Апошнім часам Нурсултан Назарбаеў яўна напужаны імперыялістычнымі выбрыкамі Масквы, пачаў актыўна імітаваць заўзятага нацыяналіста. Напрыклад, не так даўно крытыкаваў аднаго з чыноўнікаў за адсутнасць аб'яў у аўтобусах на казахскай мове і г.д. Але на яго рэйтынг гэта ніяк не ўплывае.

«Большасці грамадзян Казахстану не хацелася б, каб Расія ўсталявала над імі поўны кантроль, але пры гэтым яны не гатовыя нічога актыўна прадпрымаць, а тым больш рызыкаваць сваімі жыццямі ці бягучым дабрабытам дзеля ўлады», — адзначае апазіцыйнае выданне «Республика».

Як лічаць эксперты, нядольнасць Астаны мабілізаваць нацыю ў перспектыве будзе значыць растучы кантроль Масквы над краінай. Тое ж выданне адзначае: «Гэта (апісаныя трэнды ў грамадскай свядомасці) азначаюць, што сямейнаму варыянту, калі Нурсултана Назарбаева на пасадзе кіраўніка дзяржавы зменяць або яго старэйшая дачка, або пляменнікі, або бліжэйшы і самы давераны паплечнік, не бываць. Нават калі такое адбудзецца, пераемнік атрымае ўладу не таму, што так вырашыў Елбасы, а таму, што на гэта пагадзіліся Уладзімір Пуцін і Крэмль».

Усё гэта дае падставу некаторым апазіцыйным палітолагам казаць пра тое, што правакацыю з Гітлерам замовілі ў Астане. Галоўная задача правакацыі — давесці Маскве, што ў Казахстане ёсць глеба для мясцовага Майдану, нейтралізаваць які здольны выключна Назарбаеў. Адпаведна, Масква павінна больш уважліва ставіцца да патрабаванняў Астаны падчас перамоваў наконт канчатковай рэдакцыі тэксту дамовы пра Еўразійскі эканамічны саюз.

Акрамя таго, каб абаперціся на рэсурс нацыяналізму, паліттэхнолагі Назарбаева, быццам, вымушаныя ствараць лагер пралаяльных, т. зв. «кумысных патрыётаў». Тым больш, што і раней мелі месца спробы ўладаў падобнымі манеўрамі «кумысных патрыётаў», з аднаго боку, адцягнуць грамадзян ад непапулярных антысацыяльных рэформаў ураду, а з другога — праверыць настроі грамадзян напярэдадні рэальных палітычных зменаў у краіне. Так, напрыклад, было ў ліпені 2011 года, калі адзін з патрыётаў ініцыяваў скандальна вядомую заяву аб пазбаўленні рускай мовы афіцыйнага статусу. Адбылося гэта якраз у разгар масавага страйку нафтавікоў, які той жа патрыёт асудзіў.

Улада таксама не можа не адзначаць з'яўлення ў краіне новай сацыяльнай групы — бедных унутраных казахскамоўных мігрантаў у гарадах, сацыяльна незадаволеных сельскіх жыхароў. Іх галасы здольны акумуляваць якраз радыкальныя нацыяналісты, якія прапануюць прымітыўную, аднак зразумелую гэтым людзям праграму пабудовы Казахстану для казахаў.

Наколькі падобныя версіі маюць базу, можна будзе меркаваць па тым, як будзе развівацца гітлераўскі скандал.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

22 красавіка Лукашэнка пачаў свой штогадовы зварот да нацыі, падкрэсліўшы неабходнасць аб'яднання ў часы крызісу, а таксама папярэдзіўшы аб небяспецы ўнутраных рознагалоссяў. Гэта далёка не новая тэма ў яго рыторыцы, але на гэты раз Лукашэнка выкарыстаў украінскі крызіс, каб адлюстраваць сябе гарантам беларускай стабільнасці і суверэнітэту. У той жа час Беларусь рыхтуецца правесці ў сябе Чэмпіянат свету па хакеі. Чакаецца, што на гэта мерапрыемства прыедуць 70 000 турыстаў з больш чым 50 краін. На фоне хаосу на Украіне Беларусь падасца ім адкрытай і стабільнай дзяржавай, хай нават на час чэмпіянату. Павышаную ўвагу да Мінска можа стаць для Захаду шанцам перагледзець свой катэгарычны падыход да палітыкі Мінска. Замест таго, каб лічыць Мінск абсалютнай дыктатурай, заходнія аналітыкі павінны больш уважліва паставіцца да фарміравання грамадскай думкі і палітыкі гэтай краіны.

**«The National Interest» (ЗША)**

Няма ў саюзнікаў адзінства і з нагоды ўкраінскіх падзей. Лукашэнка прызнае, што Крым — расійская тэрыторыя толькі дэ-факта. «Дэ-юрэ — не, таму што няма ніякіх пагадненняў», — сказаў ён з гэтай нагоды, адказваючы на пытанні дэпутатаў падчас штогадовага Паслання. Не падтрымлівае беларускі прэзідэнт і ідэю федэралізацыі ўсходняй суседкі. І, нарэшце, афіцыйны Мінск нават не задумаўся над тым, прызнаваць ці не новую ўкраінскую ўладу. «Там нашы інтарэсы, у імя інтарэсаў мы д'ябла прызнаем», — сказаў ён (Лукашэнка). На фоне такіх выказванняў запэўніванні ў адданасці і вернасці Расіі выглядаюць, на думку экспертаў, не вельмі пераканаўча, а значыць, могуць выклікаць пытанні ва Уладзіміра Пуціна.

**«Независимая газета» (Расія)**

Увага Польшчы сканцэнтравалася на Украіне і адцягнуліся ад Беларусі — практычна ідэальнай для Крамля дзяржавы, якая прадстаўляе сабой напалову незалежную, але заўсёды верную сатрапію. Між тым, калі мы калі-небудзь сутыкнёмся з пагрозай расійскай агрэсіі, яна прыйдзе менавіта з тэрыторыі Беларусі (або Калінінградскай вобласці), а не Украіны. Нас не павінны падманваць пракіеўскія заявы Аляксандра Лукашэнкі і праявы яго незалежнасці ад Масквы, бо ў геапалітычнай гульні яго сатрапія — гэта адзін з самых заходніх расійскіх бастыёнаў.

**«Rzeczpospolita» (Польшча)**

Баланс сімпатый і антыпатый да Майдану (у Беларусі) выглядае блізкім да расійскага: справядлівай карай лічаць звяржэнне Януковіча 27,7 адсотка, дзяржаўным пераваротам — амаль удвая больш — 54,7. Здавалася б, лічбы для беларускага рэжыму цалкам суцяшальныя. Да таго ж выраслі і рэйтынг і паказчыкі эканамічнага дабрабыту. Але, як паказвае вопыт, чым радасней у Беларусі жыць, і нават чым лаяльней грамадзянін да прэзідэнта, тым больш ахвотна ён успамінае аб настальгічных ілюзіях. Ніякіх парадоксаў. Еўропа для грамадзяніна — гэта не каштоўнасці і лад жыцця, а дабрабыт без усялякіх разважанняў. Часы змяніліся: гэта калісьці пагаршэнне эканамічнай сітуацыі будзіла тугу па СССР. Цяпер, калі дрэнна і галодна, — хочацца ў Еўропу. Усе апошнія гады колькасць жадаючых аб'ядноўвацца з Еўропай паслядоўна і няўхільна расце, усё больш пераўзыходзячы колькасць прыхільнікаў Мытнага саюза. Лічбы, вядома, рэактыўная і эмацыйныя, як сам час, але тэндэнцыя для Лукашэнкі трывожная.

**«Главком» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АЎСТРАЛІЯ. Трэба адмовіцца ад Дня абаронца айчыны

25 красавіка аўстралійцы адсвяткавалі наш аналаг Дня абаронца айчыны. У аўстралійскім варыянце яго называюць Anzac і святкуюць з нагоды гадавіны дэсанту брытанскага войска ў раёне турэцкага гораду Галіяполі ў гэты дзень у далёкім 1915 годзе. Касцяк таго корпусу складалі рэкруты з Аўстраліі і Новай Зеландыі, якіх часта скарочана называлі Anzac (Аўстралія плюс новая Зеландыя). Аперацыя закончылася правалам. Галоўнай мэты — захопу Дарданелаў — брытанцы не дабіліся. Затое да жніўня 1915 года, калі ўсіх дэсантнікаў эвакуіравалі, страцілі каля 60 тысяч чалавек. Доўгі час ніхто не аспрэчваў неабходнасць святкаваць 25 красавіка, аднак Anzac–2014 выклікаў шмат дэбатаў. На думку некаторых аўстралійцаў, гэтае свята трэба прыбіраць з календара чырвоных дат. Па-першае, яно сведчыць пра тое, што аўстралійцы доўгі час былі «шасцёркамі» Лондану, які дасылаў жыхароў былой калоніі ваяваць без іх інтарэсу. Сапраўды, нашто жыхару Аўстраліі далёкія чарнаморскія пралівы? Па-другое, Аўстралія ўсё імклівей разрывае культурныя сувязі з былой метраполіяй на карысць інтэграцыі ў азіяцкую супольнасць. Каб інтэграваць новую хвалю імігрантаў з Ірану, Кітаю і Індыі, трэба адмаўляцца ад каланіяльных комплексаў. Ёсць і крытыкі такога падыходу. Яны лічаць, што Anzac як нішто іншае абʼядновае аўстралійцаў, прадстаўнікі якіх бы нацый яе не складалі. Сапраўды, ёсць першыя прыклады таго, калі этнічныя індусы зрабілі някепскія карʼеры ў складзе аўстралійскай арміі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Ці дапамогуць еўраскептыкам памеры румынскіх пенісаў

Брытанскія еўраскептыкі з Партыі Незалежнасці Абʼяднанага Каралеўства (UKIP) нечакана аказалісяаднымі з фаварытаў выбараў у Еўрапарламент, якія пройдуць 25 мая. Цікава, што адной з фішак іх кампаніі стаў тэзіс пра тое, што румынскія мужчыны маюць вялікі памер палавых органаў. Як следства, зʼяўленне ў Вялікабрытаніі арміі працоўных эмігрантаў з Румыніі, супраць чаго таксама змагаецца UKIP, быццам, мова выклікаць хвалю адзюльтэраў, што разбурыць шматлікія брытанскія сем'і. На выбарчых білдобрах UKIP можна пабачыць арыгінальны тэкст: «Румыны маюць пенісы большыя за вашы і могуць прымусіць вашых жонак смяяцца з вас зноў. Скажыце «не» масавай міграцыі!». Вось такая палітычная рэклама. Праўда, некаторыя бачаць у падобных слоганах тонкі жарт з боку незалежнікаў — як вядома, гумар заўсёды падабаецца брытанскім выбаршчыкам. Застаецца сказаць, што выбары ў Еўрапарламент у Румыніі таксама цяжка назваць звычайнымі. Паводле сацыялагічных апытанняў, 66 працэнтаў румынаў, калі б было магчыма, прагаласавалі б сёння за партыю Нікалае Чаўшэску (камуністычны дыктар, які быў забіты 25 гадоў таму). Рэйтынг самых папулярных цяперашніх румынскіх палітыкаў не выходзіць за рамкі 30 працэнтаў.

**Паводле румынскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Сын прэзідэнта ўпершыню з'явіўся ў тэлеэфіры



Гейдар Аліеў — 17-гадовы сын азербайджанскага прэзідэнта Ільхама Аліева, унук мінулага прэзідэнта Гейдара Аліева, упершыню даў інтэрв'ю аднаму з мясцовых каналаў. Тэмай размовы стала яго вучоба ў Азербайджанскай дыпламатычнай акадэміі. Гейдар распавёў пра ўзровень выкладання, пра тое, чым вучоба ў Акадэміі адрозніваецца ад вучобы ў замежжы. Малады Аліеў таксама адзначыў, што яго бацька — прэзідэнт Ільхам Аліеў кожны дзень цікавіцца яго ўрокамі: «Ён кожны вечар пытаецца пра мае ўрокі і пра адносіны з сябрамі. На мяне станоўча ўплывае тое, што ён увесь час думае пра мяне», — сказаў тынейджар. Нягледзячы на нейтральнасць зместу інтэрв'ю, шматлікія палітолагі адразу пабачылі тут адзнакі першых спробаў рэкламы Аліева-малодшага. Адразу пачалі казаць, што яго паступова збіраюцца штурхаць у пераемнікі бацькі. Гэта выглядае лагічна з улікам таго, што ў азербайджанскага гаранта адзін сын і дзе дачкі. Іншыя кажуць, што інтэрв'ю не мае ніякага палітычнага падтэксту. Праўда, у прыхільнікаў такой версіі няма адказу на пытанне — нашто было выпускаць Гейдара ў эфір?

**Паводле азербайджанскай прэсы**

# Узбуйненне па-французску

Алег НОВІКАЎ

**У Францыі пачалася тэрытарыяльная рэформа, вынікам якой, на думку некаторых палітолагаў, можа стаць бум аўтанамісцкіх настрояў.**



**Мануэль Вальс**

Мануэлю Вальсу, які месяц таму ўзначаліў урад Францыі, акрамя ўсяго давядзецца вырашаць пытанне рэгіёнаў. На месцах патрабуюць большай фіскальнай аўтаноміі. Такім чынам, на думку падакаплатнікаў, яны змогуць эфектыўней кантраляваць размеркаванне бюджэтных сродкаў.

У якасці кроку насустрач грамадскасці прэм'ер прапанаваў план тэрытарыяльнай рэформы. Цяпер, нагадаем, сістэма мясцовых органаў самакіравання ў Францыі прадстаўленая 36 766 камунамі, 101 дэпартаментам і 22 рэгіёнамі. Сутнасць рэформы ў тым, каб колькасць апошніх скараціць да 12. Гэта, быццам, дазволіць перыферыі больш актыўна займацца праблемамі лакальнай эканомікі.

Першымі, хто вітаў рэформу па ўзбуйненні рэгіёнаў, сталі брэтонскія нацыяналісты. Мануэль Вальс заслужыў падзяку за тое, што цяпер у склад рэгіёну Брэтань можа ўвайсці дэпартамент Луар-Атланцік (Loire-Atlantique).

Нацыяналістаў у дадзеным выпадку цешыць тое, што пасля далучэння Луар-Атланцік межы рэгіёну Брэтань будуць падобныя на кардоны аднайменнай правінцыі, якая існавала да Вялікай французскай рэвалюцыі. Той факт, што старая правінцыя Брэтань адраджаецца ў сваіх гістарычных межах, выклікае сярод брэтонскіх нацыяналістаў нябачны прыступ эйфарыі і надзею на тое, што калі-небудзь іх край стане вольным.

Пакуль у 1790 годзе, пасля Вялікай французскай рэвалюцыі, Нацыянальная асамблея не «парэзала» краіну на дэпартаменты, яна дзялілася якраз на правінцыі. Іль-дэ-Франс, Бургундыя, Арлеан, Нармандыя, Лангедок, Шампань і інш. Усяго напярэдадні штурму Бастыліі ў Францыі існавала 36 правінцый, якімі кіравала мясцовая арыстакратыя. Іх капрызы, аднак, абмяжоўвалі мясцовыя парламенты, муніцыпалітэты, традыцыйныя правы, вольнасці карпарацый і г.д. Уся гэта заблытаная стракатая правая сістэма на месцах нейкім чынам упісвалася ў агульнафранцузскі прававы арганізм.

Пасля 1790 года на базе былых правінцый паўстала 83 дэпартамента. Пазней іх колькасць толькі расла. Пасля таго, як Напалеон далучыў да Францыі тэрыторыі краін-суседзяў, дэпартаментаў стала 115. Замест рознага кшталту герцагаў і графаў руліць на месцах пачалі камісары і прэфекты з Парыжу. Францыя стала цэнтралізаванай дзяржавай, якой па сутнасці застаецца дасюль.

Дасюль таксама не зацягнуліся раны адміністратыўнай рэформы 1790 года. Яшчэ з пачатку XIX стагоддзя ў Францыі існуе рух за адраджэнне былога адміністратыўнага падзелу і вяртанне рэгіёнам аўтаноміі. Прычына настальгіі звязаная ў тым ліку з тым, што для брэтонцаў, аквітанцаў, нармандцаў і іншых малых этнасаў Францыі тыя правінцыі былі калыскамі іх дзяржаўнасці. Дзякуючы аўтаноміі рэгіёны доўгі час захоўвалі культурную ідэнтычнасць іх жыхароў. У тым ліку правінцыі мелі права на свой моўны кодэкс. Але ў ноч на 4 жніўня 1790 года Асамблея забараніла ўсе мовы і дыялекты правінцый (іх разглядалі як частку прывілеяў арыстакратаў).

Не дзіўна, што патрабаванне адміністратыўнай рэформы можна знайсці ў маніфестах практычна ўсіх партый, якія змагаюцца за правы малых народаў Францыі. Па логіцы тых жа брэтонскіх нацыяналістаў, стварэнне адміністратыўных адзінак у межах былых правінцый Французскага каралеўства стане першым крокам да набыцця дзяржаўнасці. Без гэтага немагчыма фармаванне лакальнай калектыўнай самасвядомасці — перадумовы моцнага руху за нацыянальна-палітычную аўтаномію.

Наколькі вяртанне на адміністратыўную мапу назваў Брэтань або Нармандыя здольныя ў перспектыве пахаваць мадэль французскага цэнтралізму?

Аказваецца, дэбаты на гэты конт трываюць у Францыі яшчэ з сярэдзіны XIX стагоддзя. Так, Фрэдэрык Містраль, бацька руху за незалежнасць Аквітаніі, сцвярджаў, што рэжым, які быў у правінцыях, дазваляў моцна абараняць мясцовыя культурныя нормы. У прыватнасці, дзякуючы правінцыям лангедокская мова, быццам, на нейкім этапе гісторыі была найбольш развітай мовай у Еўропе.

Была і радыкальная апазіцыя такому падыходу. Славуты французскі гісторык Анэзім Рэклю, які, дарэчы, прыдумаў тэрмін «франкафонія», лічыў, што правінцыйная ідэнтычнасць — гэта міф. Ва ўмовах феадалізму асаблівага пачуцця прыналежнасці да нацыі або этнасу не ўзнікала або яно было фрагментарным. Галоўным быў сацыяльны статус — селянін, гараджанін, арыстакрат і г.д.

Акрамя таго адносіны паміж сярэднявечнымі правінцыямі ніколі не былі ідэальнымі. Вельмі часта эліты аднаго рэгіёна сварыліся з іншымі. Так, у Брэтані традыцыйна лічылася, што частка правінцыі Нармандыя — спрадвечная зямля брэтонцаў. Іншымі словамі, аднаўленне былых правінцый можа выклікаць серыю памежных канфліктаў. У сваю чаргу, самі правінцыі не былі ўнітарнымі. Хутчэй, гэта быў кангламерат у рознай ступені аўтаномных феодаў, якія выжывалі за кошт сельскай гаспадаркі. Як след ,адрадзіць такую мадэль сёння ва ўмовах, калі формы эканомікі іншыя, практычна немагчыма.

Цяпер старыя спрэчкі працягваюцца з папраўкай на вынікі актуальных сацыялагічных апытанняў. Адпаведна ім, каля 76 працэнтаў французаў лічаць сябе вельмі прывязанымі да рэгіянальных культурных традыцый. Яшчэ 60 працэнтаў не супраць поўнай ліквідацыі дэпартаментаў і стварэння адзінага рэгіянальнага ўраду. Найбольш вялікі працэнт аматараў дэцэнтралізацыі сярод моладзі. 49 працэнтаў маладых французаў лічаць сябе мясцовымі патрыётамі. Сярод старэйшага пакалення такіх толькі 35 працэнтаў.

Каментуючы статыстыку і высновы рэгіяналістаў, іх праціўнікі кажуць пра тое, што тыя блытаюць разуменне сучаснымі французамі паняцця «ідэнтычнасць». Лакалізацыя абсалютна не выключае ў людзей пачуцця прыналежнасці да Францыі, асабліва ва ўмовах глабалізацыі. І адраджэнне былых правінцый у выглядзе рэгіёнаў не моцна паўплывае на алгарытм. Так, у дэпартаментах, якія ўваходзілі ў рэгіён Брэтань адсотак тых, хто лічыць сябе брэтонцам, не больш за 1,5 працэнта. Яшчэ 22% лічаць сябе хутчэй брэтонцамі, чым французамі. Іншыя — французамі ў розных варыяцыях. Такім чынам, бунт рэгіёнаў, хутчэй, звязаны з эканомікай: людзі не жадаюць карміць парыжскіх чыноўнікаў. Праўда, калі ўзгадаць гісторыю развалу СССР, шматлікія нацыянальныя рухі пачыналіся менавіта з эканамічных лозунгаў.

# Шварцэнегер для Кіева

**У Кіеве стартавала кампанія па выбарах гарадскога мэра. Пра расклад кандыдатаў, ход кампаніі і яе значэнне для агульнага палітычнага працэсу ва Украіне журналісту «Новага Часу» Алегу Новікаву распавядае кіеўскі палітолаг Максім Міхайленка.**



***— Як вядома, галоўным фаварытам кампаніі па абранні мэра Кіева з'яўляецца Віталь Клічко, які адмовіўся балатавацца ў прэзідэнты. Нехта можа пазмагацца з баксёрам?***

— Галоўным канкурэнтам Клічко лічыцца выконваючы абавязкі мэра гораду Уладзімір Бандарэнка, які прадстаўляе партыю «Бацькаўшчына». Аднак наўрад ці ён здольны скласці канкурэнцыю Клічко. Бандарэнка — не такая яркая асоба, і ўвогуле яго тыпаж (Бандарэнка вельмі мажны чалавек) выклікае смех. Зараз у кіеўскім заапарку памірае слон, і ўсё жартуюць, што Бандарэнка са сваім пузам зможа яго замяніць. Мяркую, што куды больш моцным праціўнікам для Клічко з'яўляецца Леся Орабец, пазапартыйны дэмакрат — адна са спікераў Майдану. У яе дастаткова высокі аўтарытэт, паколькі за ёй няма буйнога кампрамату. Аднак, шчыра кажучы, думаю, што шансаў у яе таксама мала. Для Клічко гэтыя выбары рашаючыя. Ён ужо два разы прайграваў на выбарах мэра, і калі прайграе зараз, то будзе вымушаны пакінуць палітыку. Таму ён мабілізуе ўсе рэсурсы.

***— Усе памятаюць, як у снежні, калі Майдан даўно ўжо стаяў, кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі прайграў выбары ў цэнтры Кіева. Ці значыць гэта, што ў Партыі рэгіёнаў ёсць сацыяльная база ва ўкраінскай сталіцы?***

— Думаю, што шмат людзей незадаволеныя новай уладай па некаторых канкрэтных пытаннях, аднак у суме прыкладна працэнтаў пяць кіяўлян гатовыя сумленна прагаласаваць за Партыю рэгіёнаў. Галасаваць за Партыю рэгіёнаў у Кіеве — знак кепскага густу. Менавіта таму піяршчыкамі Януковіча да рэвалюцыі была распрацаваная спецыяльная мадэль для захопу кантролю ў выбарчых органах у тым жа Кіеве і іншых «аранжавых» гарадах. Звычайна, на выбары ішлі т.з. «незалежныя», якім праўдамі і няпраўдамі малявалі перамогу. Атрымаўшы мандат, такія незалежныя дэпутаты звычайна пераходзілі ў Партыю рэгіёнаў. Відавочна, што на гэтых выбарах такога калібру дэпутатаў не будзе. У тым ліку не пойдуць на выбары і тыя, хто калісьці трапіў у Кіеўраду па такой формуле. Гэта адразу прыцягне інтарэс да іх былых махінацый.

***— На парламенцкіх выбарах 2011 года нечакана вялікі працэнт па Кіеву атрымала «Свабода». Ці здольныя радыкальная нацыяналісты замацаваць свой поспех на муніцыпальных выбарах?***

— «Свабода» імкліва губляе палітычную вагу. І гэта звязана не толькі з тым, што яе актывісты вельмі часта дыскрэдытуюць Майдан. Проста «Свабода» відавочна не праявіла сябе як партыя, якая здольная займацца гарадской гаспадаркай. Лепшым прыкладам з'яўляецца сітуацыя ва Львове, дзе мясцовая фракцыя «Свабоды» аказалася звязанай з шэрагам вельмі непрыемных афёр накшталт лабіявання будаўніцтва новых камерцыйных цэнтраў у гістарычнай гарадской зоне і г.д. Ёсць шэраг скандалаў, калі дзеці дэпутатаў ад «Свабоды», паводзілі сябе як мажоры. Акрамя таго, відавочна, што алігарх Каламойскі, былы галоўны спонсар «Свабоды», страціў да гэтага праекту інтарэс і пачаў падтрымліваць Правы сектар.

***— У прынцыпе, вынік выбараў прадказальны ўжо зараз. Спыніць Клічко ніводная палітычная сіла не ў стане. Ці можна лічыць выбары прахаднымі?***

— Якраз наадварот. Гэта будуць самыя цікавыя мясцовыя выбары. Справа ў тым, што зараз з'явіўся шанец сапраўды змяніць «твар» улады. Былыя карумпаваныя палітыкі, у тым ліку з лагеру дэмакратаў, намагаюцца заставацца ў цэню. Прычына банальная. Некаторыя старонкі іх біяграфіі адразу могуць выклікаць інтарэс у «Самаабароны» з Майдана, якая ўзяла на сябе функцыі нізавога грамадскага кантролю. Ніхто не хоча, каб на яго дачу нанеслі візіт актывісты.

Акрамя таго ў ракіроўках ва ўкраінскіх уладных эшалонах вельмі зацікаўленыя на Захадзе, які хоча мець справу з новым пакаленнем палітыкаў. Ходзяць чуткі, што ўсе кандыдаты нават праходзяць праверку ў структурах фінансавай разведкі ЗША наконт датычнасці да брудных справаў. Мяркую, што пахаладанне адносін паміж Захадам і Юліяй Цімашэнка выклікана ў тым ліку нефармальным аўдытам яе гаспадарчай дзейнасці. Не сакрэт, што ў прахадную частку выбарчага спісу Блока Юліі Цімашэнка мог уступіць кожны, хто мог выкласці мільёнаў долараў. Прынамсі, такая сума называлася ў прэсе.

***— Ці не існуе пагрозы таго, што Цімашэнка ў выпадку канфлікту з Захадам пачне фліртаваць з Масквой?***

— Падаецца, што такія кантакты даўно існуюць і развіваюцца. Ёсць думка, што Крэмль вырашыў зрабіць з Цімашэнка ўкраінскі варыянт цяперашняга грузінскага лідара Іванішвілі. Іванішвілі таксама дапускае антырасійскую рыторыку, аднак гэта, безумоўна, не Саакашвілі, які нёс непасрэдную пагрозу расійскім інтарэсам і фарсіраваў уступленне Грузіі ў NATO.

***— Вяртаючыся да кіеўскіх выбараў. Што будзе ўяўляць палітыка Віталя Клічко ў выпадку абрання яго на пасаду мэра?***

— Калі аналізаваць вопыт Клічко як палітыка, можна сказаць, што ён іміджавы кандыдат, накшталт Арнольда Шварцэнэгера, які, як вядома, стаў губернатарам Каліфорніі. Іншымі словамі, ніякага практычнага вопыту працы на пасадзе мэра ў яго няма. Камунальную гаспадарку ён ведае кепска. Таму ён будзе рабіць стаўку на каманду прафесіяналаў. Што з гэтага атрымаецца, будзе шмат у чым залежаць шмат ад чаго, у тым ліку ад макрапалітычных працэсаў. Самае важнае, каб былі закладзеныя падмуркі грамадзянскай супольнасці. Яшчэ раз падкрэсліваю, што будучыня вырашаецца не на выбарах мэра, а на выбарах у мясцовыя саветы. Трэба як мага хутчэй уліць у сістэму свежую кроў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Фрыц Кун



Мэр нямецкага гораду Штутгарт, сябра партыі зялёных, прапанаваў назваць мясцовы аэрапорт у гонар былога мэра, чым выклікаў цікавыя дэбаты. Справа ў тым, што былога мэра звалі Манфрэд Ромель. Між тым, прозвішча Ромель адразу выклікае ў бюргера асацыяцыю з Эрвінам Ромелем, вядомым камандуючым Вермахту часоў Другой сусветнай вайны, які праславіўся ў кампаніі за Паўночную Афрыку. Хаця маршала Ромеля цяжка лічыць нацыстам (ён нават меў датычнасць да няўдалай антыгітлераўскай змовы 1944-га, што прымусіла яго пакончыць з жыццём), усё ж яго імя выклікае адпаведныя супярэчлівыя рэакцыі. Праціўнікі ініцыятывы Куна лічаць, што яго інавацыі абыдуцца аэрапорту мінімум байкотам з боку ізраільскіх фірм і турыстаў. У сваю чаргу, Кун і яго прыхільнікі кажуць, што прозвішча Ромель у назве аэрапорта можа паступова прымусіць забыцца пра Эрвіна Ромеля і думаць пра аэрапорт. Самае цікавае, што Манфрэд Ромель — сын таго самага Эрвіна Ромеля. Праўда, у адрозненні ад бацькі, ён быў заўзятым пацыфістам. За 20 гадоў знаходжання на пасадзе мэра Штутгарта Манфрэд Ромель праславіўся як вельмі талерантны да чужой думкі палітык. У 1977 годзе ён нават пагадзіўся, каб на мясцовых могілках пахавалі тэрарыстаў з Фракцыі «Чырвонай Арміі», што выклікала шок — ніводная камуна ФРГ не дала згоды на такое пахаванне.

### Майкл Рэйк



Кіраўнік Канфедэрацыі брытанскіх прамысloўцаў, адной з самых буйных арганізацый, якія лабіруюць інтарэсы бізнэсу ў Вялікабрытаніі, зрабіў падарунак прыхільнікам незалежнасці Шатландыі, лёс якой будзе вырашацца на рэферэндуме 17 верасня. Пасля таго, як Канфедэрацыя афіцыйна далучылася да кампаніі «Не», у рамках якой агітуюць за захаванне цяперашняга статусу Шатландыі, колькасць сімпатыкаў суверэнітэту горцаў стала расці. Вынікі апошніх сацыялагічных апытанняў паказваюць, што розніца паміж аматарамі і праціўнікамі незалежнай Шатландыі складае ўсяго два працэнты. Між тым, калі была агучана ініцыятыва пра плебісцыт, разрыў быў на ўзроўні 8–9 працэнтаў. Гэта яшчэ пры тым, што ніхто канчаткова не ведае, як будзе галасаваць каля паўмільёна шатландцаў, якія стала жывуць у Англіі. Сакрэт росту папулярнасці незалежніцкай дактрыны вельмі просты. Шмат хто з шатландцаў, даведаўшыся пра ўчынак CBI, вырашыў падтрымаць незалежнасць, каб паказаць дулю брытанскай палітычнай і эканамічнай эліце, пры гэтым нават асабліва не ўнікаючы ў спецыфіку праблемы. Самае цікавае, што пачынанне падхапілі простыя англічане, якія таксама не ў захапленні ад курсу ўраду. Як піша прэса, сярод жыхароў незаможных кварталаў Лондану раптам стала модна шукаць у сябе шатландскія гены.

### Альгірдас Буткявічус



Урад Буткявічуса дабіўся таго, каб Rail Baltica — трансбалтыйская хуткасная чыгунка ў Еўропу, праходзіла праз Вільнюс. Раней Латвія і Эстонія патрабавалі пракладкі чыгуначнай трасы праз Каўнас. Так, па іх разліках, было б танней. Вільнюс пабачыў тут замах на гонар літоўцаў. У такім выпадку атрымлівалася, што шлях будзе ісці праз сталіцы Латвіі і Эстоніі, абмінаючы сталіцу Літвы. Яблыкам разладу таксама была ідэя Латвіі размясціць Цэнтральны офіс кампаніі ў Рызе. Нарэшце, Эстонія лічыла, што мае права атрымаць кампенсацыі за тое, што чыгунка пройдзе праз нейкі эстонскі нацыянальны парк. У снежні мінулага года ад сустрэчы міністраў транспарту трох Балтыйскіх дзяржаў чакалі, што яны нарэшце дамовяцца, і новы год не будзе сапсаваны новымі спрэчкамі. Але не атрымалася. Дайшло да таго, што некалькі дзён таму Еўракамісія прыстрашыла наогул пазбавіць фінансавання Rail Baltica. ЕС даў зразумець, што калі бакі не знойдуць кампраміс, то яны рызыкуюць застацца ля разбітага карыта. У выніку Латвія і Эстонія далі згоду на патрабаванне Літвы.

# Неардынарны Артур Клінаў


Фота А.Кузнецова

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Мастака Артура Клінава не без падстаў называюць самым інтэлігентным «партызанам» Беларусі. Я б яшчэ дадаў — і самым крэатыўным. І не толькі таму, што ён рэдагуе альманах сучаснай беларускай культуры «pARTisan». З крэатыўных момантаў складаецца ўсё яго неардынарнае жыццё.**

### Першы выбар

Першыя крокі па зямлі ў Артура Клінава былі самымі звычайнымі, хаця і тут у некаторых могуць узнікаць пытанні. Нарадзіўся ён у Мінску ў 1965 годзе. Рэальна, гэта адбылося 5 студзеня, а «па пашпарце» — 5 верасня. Чаму Артура зрабілі на сем месяцаў маладзейшым, можна толькі гадаць.

Яго маці, Валянціна Васільеўна, была праграмістам і працавала з электронна-вылічальнымі машынамі (ЭВМ), якія тады толькі-толькі з'явіліся ў Савецкім Саюзе. Гэта была новая і вельмі цікавая прафесія, таму Артур заўсёды з вялікім задавальненнем прыходзіў да яе на працу.

Гледзячы на сучасныя кампутары, вельмі цяжка ўявіць, што некалі падобная тэхніка была памерамі з вялікія шафы. Асабліва ў той шостай часты свету, дзе будавалі камунізм.

Прынцыповай камуністкай была і маці Артура. Але не ў сэнсе вернасці «запаветам Ільіча». У кампартыі заўсёды былі людзі, якія дамінавалі на трыбунах. І тыя, хто рабіў «чарнавую справу». Менавіта да апошніх яна і належала.

А бацька Артура Клінава «загінуў на вайне». Так з крыўдай сыну казала маці, што даволі тыпова для жанчын, ад якіх сыходзяць мужы. Бацьку звалі Аляксандр Аляксеевіч. З сям'і ён сышоў, калі хлопчыку было толькі два гады.

Аляксандр Аляксеевіч Клінаў быў вельмі неардынарным чалавекам, бо «сумяшчаў» у сабе званне майстара спорту па боксу і работу мастаком. Спалучэнне, на сённяшні дзень, вельмі цікавае. Звычайна людзі абіраюць нешта адно: альбо спорт, альбо жывапіс, аднак у той час гэта было нярэдкай з'явай. Напрыклад, яго сябрам быў вядомы скульптар Канстанцін Сарока — майстар спорту па стральбе з луку.

Словам, кола бацькоўскіх сяброў складалася з дзіўнага міксту мастакоў і спартсменаў, і жыў ён (у фінансавым сэнсе), мякка кажучы, няблага. Можна нават сказаць — прыгожа. Ён працаваў мастаком-афарміцелем.

А замовы ад дзяржпрадпрыемстваў тады былі даволі каштоўнымі. За афармленне «пад ключ», то бок «з поўнай нагляднай агітацыяй» (стэлы, помнікі, дошкі гонару і г.д.) аднаго калгаса плацілі такія грошы, аб якіх многія цяперашнія мастакі могуць толькі марыць.

Са сваім бацькам Артур па-сапраўднаму пазнаёміўся толькі ў сярэдзіне сваёй вучобы ў школе. Маці на той момант ужо расказала праўду, і ён ведаў, што з'яўляецца нашчадкам мастака, таму без якіх-небудзь ваганняў Артур Клінаў марыў стаць мастаком і сам. І справа не толькі ў тым, што пры першай сустрэчы бацька падарыў яму набор вельмі дарагіх (і па кошту, і па якасці) пэндзляў для малявання. Гены, што называецца пальцам не прыцісне.

Артур Клінаў вучыўся адразу ў дзвюх школах. Звычайнай СШ №61, што месціцца на вядомым усяму Мінску бульвары Шаўчэнкі, і стала зараз гімназіяй №3. І мастацкай школе №1, якая знаходзіцца на не менш вядомай вуліцы Валадарскага.

> Хутка Клінава і Саўку сталі лічыць галоўнымі нацыяналістамі класа

Дзеля справядлівасці, трэба назваць яшчэ і трэцюю навучальную ўстанову. Першыя чатыры гады Артур Клінаў адвучыўся ў школе № 6, і толькі потым яны пераехалі на «Старажоўку». Ад былой «Старажоўкі» ўжо мала чаго засталося. Раён лічыўся «габрэйскім», таму няма нічога дзіўнага, што большасць сяброў Артура былі габрэямі, якія, як вядома, у тыя часы вельмі крытычна ставіліся да камуністычнай ідэалогіі. «Антысаветчыкам» стаў і Артур Клінаў. Як і яго бацька, дарэчы, які ненавідзеў камуністычны лад «усімі фібрамі душы».

Цікава, што за адной школьнай партай Артур сядзеў з вядомым спецыялістам па беларускай філалогіі Змітром Саўкам, якога і зараз з павагай называе «акадэмікам». Прыблізна ў сёмым-восьмым класе школы яны пачалі адкрываць для сябе беларушчыну, што было падобным да набыцця новага свету. Хутка Клінава і Саўку сталі лічыць галоўнымі антысаветчыкамі класа. А потым і галоўнымі нацыяналістамі.

Пасля заканчэння школы Артур Клінаў падаў дакументы ў Беларускую мастацкую акадэмію, якая на той момант была яшчэ інстытутам, але з першага разу не паступіў.

### Першы перфоманс

Каб не губляць час, Клінаў год правучыўся на архітэктурным факультэце політэхнічнага інстытута, плануючы потым зноў паступіць у мастацкі. Аднак вучоба «на архітэктурным» так спадабалася Артуру, што наступным летам ён вырашыў нічога ў сваім жыцці не мяняць.

Дарэчы, вучыўся Артур у тым самым «Парусе», які ў савецкія часы быў своеасаблівай візіткай беларускай сталіцы і ўражваў усіх, хто прыехаў у Мінск з боку Масквы. Новы корпус інстытута тады толькі-толькі пачаў працаваць.

Акрамя таго, у інстытуце была ваенная кафедра, што ў будучым пазбаўляла ад тэрміновай вайсковай службы. Артур Клінаў на той момант ужо быў перакананым пацыфістам.

Другім сур'ёзным аргументам «за» архітэктурны факультэт БПІ, было «вольнае паветра», якое там тады панавала. Напэўна, гэта быў адзін з самых дэмакратычных факультэтаў Беларусі таго часу. На архітэктурным факультэце «дух свабоды» быў не параўнальна мацнейшым, чым на іншых, і Артуру гэта таксама вельмі падабалася.

Яшчэ раз падкрэсліваю, што Артур Клінаў увесь час вучобы ў ВНУ, марыў стаць мастаком і ніводнага дня не збіраўся працаваць «па спецыяльнасці, таму, калі яго размеркавалі ў Зэльву галоўным архітэктарам раёна, гэта было ўспрынята не больш, чым нейкая недарэчнасць.

Менавіта яна і стала глебай для першага ў жыцці перфомансу. Каб лепш перадаць усе дэталі гэтага эпізоду, прапаную аповед самога Артура.

— Натуральна, што ў Зэльве ўжо быў свой галоўны архітэктар, таму маё з'яўленне ў гэтым горадзе ўспрынялі, скажам так, без асобай радасці. Гэта было «дарэчы», бо працаваць архітэктарам я і не збіраўся.

Яшчэ ў школе я насіў даволі доўгія валасы, за што не раз меў праблемы. Хто жыў у той час, ведае аб чым гаворка. Ідэалогія хіпі не пасавала да марксізму-ленінізму, таму да майго «хаяра», чапляліся не толькі школьныя настаўнікі і міліцыянты. Часам гэта адбывалася нават на вуліцы. Нападнікамі былі звычайныя прахожыя.

Калі дадаць яшчэ модныя тады «клёшы» і завушніцу, няцяжка ўявіць, што выгляд у мяне быў цалкам «антысавецкі».

У Зэльве я перасягнуў нават такі варыянт. Спецыяльна замест больш-менш прыстойнага адзення начапіў нейкія лахманы. Намаляваў сабе некалькі часовых татуіровак, на вуха — цыпель, ледзь не крыж на шыю павесіў. Словам — пачвара.

Увявіце, у такім выглядзе я заходжу ў кабінет галоўнага архітэктара Зэльвы і кажу: «Мяне па размеркаванні прызначылі на ваша месца, але працаваць тут не хачу!» У яго сківіца адвісла. Адмацаванне ён «падмахнуў» тут жа.

Тое ж самае было і ў Гародні, у абласной установе. Маўляў, нам такія «кадры» не патрэбныя…

### Вольнае паветра

Амаль адразу Артур паехаў у тады яшчэ Ленінград (запакаваў кнігі, пэндзлі і г.д.). Маляваў, жыў у майстэрнях сяброў. Горад яму вельмі спадабаўся — настолькі, што ён нават хацеў туды эміграваць.

Ішоў 1987 год. З усіх гарадоў Савецкага Саюза Піцер быў самым прагрэсіўным. Пачалася перабудова. Нават паветра здавалася вольным.

Сяброў у Артура там было вельмі шмат, аднак увесь час «туляўся» па чужых кутах… Напэўна, калі б у Піцеры ў Клінава было б нешта сваё, ён там бы і застаўся. А так праз паўгады Артур зразумеў, што трэба крыху «адпачыць», і вярнуўся ў Мінск.

Калі «адчыніліся» межы, шмат хто з'ехаў у Нямеччыну, Польшчу, Швецыю, але Клінаў зразумеў, што лёсам яму наканавана толькі Беларусь.

Канец 1980-х гадоў можна назваць фантастычным часам для ўсіх творчых людзей, а для мастакоў асабліва. Перабудова, што называецца, адчыніла ім усе дзверы. Мажлівасці з'явіліся неверагодныя.

Класічны жывапіс ніколі не цікавіў Артура Клінава. Яшчэ ў школе ён цвёрда вырашыў стаць авангардыстам, хаця ўяўленне пра сутнасць гэтага слова меў даволі туманнае.

Менавіта для нонканфармісцкага мастацтва наступіў тады свой «залаты век». Творчае жыццё літаральна бурліла. Падобнае бывае даволі рэдка. Напэўна, раз у сто гадоў.

У мастацкім асяроддзі панавала сапраўдная эйфарыя, якая, на жаль, для некаторых потым скончылася вялікім расчараваннем.

Цікавасць да «рускага авангарду» тады была проста неверагоднай. Прычым ва ўсім свеце. Замежныя калекцыянеры скуплялі ўсё, што рабілі тады мастакі гэтага накірунку. Нагадаю, што ў тыя гады яшчэ існаваў Савецкі Саюз, які ў замежных светапоглядах атаясамліваўся з Расіяй, таму нейкіх умоўных нацыянальных падзелаў не існавала. Усе былі «рускімі»…

Словам, у «авангардыстаў» у той час былі і грошы, і магчымасці тварыць.

Бліжэй да сканчэння «авангарднага рэнэсансу» ў грамадстве стала з'яўляцца новая хваля жыццёвых арыенціраў — асабісты бізнес. Маладых і актыўных гэта закранула асабліва. У тым ліку і Артура Клінава. Усе адкрывалі нейкія фірмы, кааператывы.

З сябрам, Аляксандрам Русанавым, якога Клінаў «прывёз» у Мінск з Піцера, яны пачалі займацца, што называецца «народнымі промысламі» — гжэль, палех, хахлама, матрошкі і г.д. Нічым падобным у Беларусі ніхто тады не гандляваў, таму ў першых была ўнікальная магчымасць працаваць, як кажуць, «з чыстага аркуша». Першым тады ўвогуле неверагодна шанцавала.

З нязменным поспехам яны адкрылі свае гандлёвыя кропкі

амаль ва ўсіх топавых гатэлях Мінска («Планета», «Юбілейны», «Беларусь») і да моманту з'яўлення вялікай колькасці канкурэнтаў вельмі добра сябе адчувалі.

Эксклюзівам створанай Клінавым і яго сябрам фірмы сталі 1,5-метровыя ядвабныя хусткі з ручным роспісам.

Калі спачатку заняткі бізнэсам і мастацтвам можна было сумяшчаць, то потым узнікла патрэба выбару. У 1995 годзе Артур Клінаў выбраў мастацтва.

### Пераход да партызанкі

І ніколі пра гэта вяртанне ў культуру не пашкадаваў. Калі ён «агледзеўся», то зразумеў, што гадоў пяць адсутнічаў у культуры. Усе вакол змянілася. У тым ліку і ў мастацтве. Займацца (як раней) авангардным жывапісам ён не мог. Трэба было рушыцца наперад. Артур Клінаў абраў для сябе новы накірунак — канцэптуальныя праекты, бо зразумеў, што «нерв жыцця» ўжо там. Безумоўна, заняткі жывапісам працягваліся, але яны адыходзілі на другі план.

Першым праектам, які быў на мяжы паміж жывапісам і канцэптуальным мастацтвам, стала знаная навагодняя паштоўка з прэзідэнтам. Няма сумневу, што яе запомнілі многія, бо нічога падобнага раней не было.

Далей былі чыста канцэптуальныя праекты — інсталяцыі, выкарыстоўванне розных аб'ектаў поп-арту, нечаканых матэрыялаў накшталт саломы, стварэнне перфомансаў і т.п.

Потым для ўсёй беларускай культуры наступілі даволі змрочныя часы, калі тэрыторыя свабоды імкліва звужалася, і Клінаву давялося ад канцэптуальнага мастацтва рушыць у бок журналістыкі.

Для новай улады культура, якая прымушае чалавека думаць, рухацца, шукаць, была непатрэбна. У культурным асяроддзі ўзнікла амаль пустэльня. Эмігрыравала цэлая генерацыя мастакоў. Усё наватарскае рабілася маргінальным, падпольным, можна нават сказаць, партызанскім. Так у 2001 годзе і ўзнік альманах сучаснага мастацтва «pARTisan».

У першым жа нумары было прадэкларавана, што ён стане трыбунай незалежнай партызанскай культуры. Дадзены арыенцір вытрымліваецца па наш час, што дае шанец — у будучым гэта мастацтва абавязкова замяніць тую савецкую культуру, якую сёння рэанімавалі.

Новы арыенцір з'явіўся і ў жыцці самога Артура Клінава. Ён стаў пісаць не толькі карціны, але і тэксты, што, па вялікім рахунку, цалкам лагічна. Канцэптуальны мастак больш працуе з ідэямі, чым з нейкім матэрыяламі, а яны нязменна прыводзяць да разумення таго, што самай аптымальнай формай іх ажыццяўлення з'яўляецца вербальная, то бок славеснае.

«PARTisan» «прымусіў» часткова замяніць мальберт на аркуш паперы.

Як прызнаецца сам Артур Клінаў, спачатку было вельмі цяжка, але разуменне таго, што рабіць гэта няма каму, настойліва «стымулявала» новы від творчасці. Больш за тое, даволі хутка прыйшло разуменне таго, што на гэтым нельга спыняцца.

Трэці нумар альманаха быў цалкам прысвечаны Мінску. Для яго Артур і напісаў эсэ з назвай «Горад СОНца».

А яшчэ раней пачаў збіраць фота матэрыялы, якія ілюструюць унікальнасць беларускай сталіцы, бо планаваў зрабіць (для памятнага прэзента) альбом. «Лубочна-савецкія» здымкі не перадавалі сапраўдны гарадскі каларыт, таму Клінаў вырашыў усё зрабіць сам, і літаральна гадзінамі хадзіў па Мінску з фотаапаратам.

Спалучэнне эсэ для «pARTisan» і гэтых фота прывялі да з'яўлення ў 2005 годзе альбома «Горад СОНца. Візуальная паэма ў трох частках». Яго заўважылі, потым тэкст некалькі разоў перадрукавалі розныя выданні, а неўзабаве самога аўтара запрасілі ў Берлін на літаратурны сімпозіум, прысвечаны Усходняй Еўропе, выступіць з адпаведнай лекцыяй. Менавіта там і ўзнікла ідэя зрабіць кнігу пра Мінск, якая будзе цікавай нямецкім чытачам. Прапанову агучыла

> Містыку Яна Баршчэўскага Артур Клінаў, як аўтар сцэнарыя, вырашыў творча аб'яднаць з гістарычнымі фактамі

рэдактар «Suhrkamp Verlag», аднаго з топавых выдавецтваў Старога Свету.

Некалькі месяцаў Артур Клінаў напружана працаваў «на немцаў». Урэшце ў Нямеччыне выйшла «Sonnenstadt der Träume», а потым выдавецтва «Логінаў» надрукавала яе беларускамоўны варыянт «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца», які затым выйшаў у Польшчы, Швецыі, Венгрыі, Расіі. І атрымаў вельмі станоўчую літаратурную крытыку.

Потым з'явіўся яшчэ адзін альбом з назвай «Дванаццаць».

А ў 2011 годзе літаратурны дэбют Артура Клінава быў працягнуты вядомым «Шалом. Ваенны раман». Не буду пераказваць змест вядомай кнігі. Нагадаю толькі, што яна цікава расказвае пра духоўны бунт мастака і метафарычны шалом, якім ён абараніў сябе ад навакольнага свету і перш за ўсё ад шоў-бізнэсу. Кніга была сярод верагодных прэтэндэнтаў на адну з літаратурных прэмій Беларусі — прэмію імя Ежы Гедройца.

### Магія кіно

Варта адзначыць і яшчэ адзін даволі паспяховы дэбют. Назва яму — кіно. У 2008 годзе сябра Артура Андрэй Кудзіненка прапанаваў яму стаць мастаком-пастаноўшчыкам фільма «Масакра», які планаваўся ў якасці першага беларускага хорара. Клінаў пагадзіўся і вельмі хутка літаральна «захварэў» магіяй кіно.

На жаль, у біяграфічным нарысе няма магчымасці прыгадваць усе акалічнасці тых здымкаў, аднак галоўнае не толькі ў іх. Фільм адбыўся.

Адразу пасля заканчэння працы над «Масакрай», «Беларусьфільм» прапанаваў Кудзіненку працягнуць працу над новай версіяй экранізацыі знакамітай кнігі Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях». Калісьці Віктар Тураў ужо ажыццявіў нешта падобнае.

Містыку Яна Баршчэўскага Артур Клінаў, як аўтар сцэнарыя, вырашыў творча аб'яднаць з гістарычнымі фактамі акалічнасцяў забойства расійскага імператара Аляксандра II, якое ажыццявіў тэрарыст Ігнат Грынявіцкі. Фільм паспяхова прайшоў экспертную Раду пры Міністэрстве культуры, і нават быў гатовы «для запуску», але потым яго раптам замарозілі.

Палітычную падаплёку гэтага рашэння бачылі ўсё — падчас «інтэграцыі» немагчыма нагадваць пра тое, што рускага цара некалькі забіў беларускі шляхціц. Калі спачатку яшчэ былі нейкія надзеі на «размарозку», то пасля падзей 19 снежня 2010 года стала цалкам зразумела, што пры сённяшняй уладзе ажыццяўленню праекта не быць.

Але вернемся зноў да літаратуры.Тыя хто прачытаў новы раман Артура Клінава «Шклатара», скажуць, што менавіта сцэнар «Шляхціца Завальні» і лёг у аснову адной з сюжэтных ліній твора. Другой лініяй сталі падзеі, якія блізкія кожнаму нас (19 снежня 2010 года) і вельмі гарманічна перапляліся з чарговым каханнем галоўнага героя, у якім многія пазнаюць самога аўтара.

Як і трэба было чакаць, рэакцыя на яго была вельмі неадназначнай. Адны ўбачылі ў кнізе сапраўдны бестселер. Другія даволі моцна пакрыўдзіліся. Чаго тут болей — пакажа час. Бясспрэчна толькі тое, што адносіны да любой творчасці не могуць быць адназначнымі па вызначэнні. Інакш яна перастае быць творчасцю.

Можа быць, менавіта па гэтай прычыне Артур Клінаў у нейкім сэнсе і падзяляе сучасную Беларусь на два праекты — палітычны і культурны. І прынцыпова лічыць апошні больш галоўным і значным, бо, калі ён не адбудзецца, няма шансаў на нейкія палітычныя зрухі. Змена ўлады не зменіць грамадства.

Планы Артура Клінава на бліжэйшую будучыню лепш за ўсё раскажа сам Артур:

— Праектаў вельмі шмат. Перш за ўсё яны звязаныя з актывацыяй працы над нашым альманахам. Калі раней выходзілі нумар-два ў год, то зараз іх будзе чатыры. Да таго ж зараз мы пачалі новы праект — «Калекцыя «pARTisan». Для Беларусі ён унікальны, гэта серыя, якая складаецца з усяго самага выбітнога, яскравага, цікавага, што адбывалася ў беларускім культурным жыцця мінулага дзесяцігоддзя. Па нашай версіі, канешне.

Атрымаецца своеасаблівая энцыклапедыя сучаснага беларускага мастацтва ў 32 альбомах. Кожны мае сваю літару. 10 мы ўжо выдалі. Некаторыя з іх проста ўнікальныя. Напрыклад, «Беларуская мастацтва 80-х». Ніхто гэтую тэму тады не даследаваў.

Словам, работы — не на адзін год.


Артур Клінаў на прэзентацыі рамана «Шалом»


Артур Клінаў, Генік Лойка і Зміцер Саўка на Гуканні вясны ў Заслаўі, 1982 год. Кадр з кінастужкі Ігара Марачкіна


Артур Клінаў «Таемная вячэра», фрагмент



«Партызан, — лічыць Артур Клінаў, — гэта не толькі гераічная постаць з пісталетам у руцэ. Гэта таксама дыягназ, паталагічны стан свядомасці з глыбіннымі страхамі ў адказ на гістарычныя траўмы».



Альбом «Горад СОНца. Візуальная паэма ў трох частках»

# Ад чорнага квадрата да чорнага куба

Аляксей ХАДЫКА

**Такога маштабнага паказу сучаснага выяўленчага мастацтва Мінск не ведаў. Адразу на трох пляцоўках стартавалі тры тэматычна звязаныя праекты: «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», «Сто гадоў беларускага авангарда», «Мастак і горад. BelART.by».**

Як гэта ні дзіўна гучыць, усе экспазіцыі арганізаваны ў рамках правядзення ў Мінску Чэмпіянату свету па хакеі і будуць доўжыцца па 10 чэрвеня. Жыхары сталіцы, якія прызвычаіліся чакаць надыход эпахальнай спартовай падзеі з адчуваннем непазбежнай катастрофы ў розных сферах штодзённага побыту, гэтым разам могуць не хвалявацца. Арганізатары экспазіцый, атрымаўшы ад кіраўніка дзяржавы пажаданне паказаць свету, чым багатае беларускае мастацтва апошняга стагоддзя, — пра агучаны Аляксандрам Лукашэнкам год таму заклік неадnoйчы нагадаў на вернісажах міністр культуры Барыс Святлоў, — падышлі да справы творча і канструктыўна.

Прынамсі, Выставачны цэнтр, «рамонак», на неабсяжных прасторах якога разгарнулася экспазіцыя «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта» выглядае сёння як годны сусветных стандартаў музей сучаснага мастацтва. І само адкрыццё, што адбылося ў максімальна афіцыёзным асяроддзі паміж аб'ектамі асаблівай ідэалагічнай насычанасці — Плошчай дзяржаўнага сцяга і новым Палацам незалежнасці, сваёй паратэатральнай экспрэсіўнасцю вылучыла наведвальнікаў з абцугоў ідэалагічнай дэтэрмінаванасці. Джазавы аркестр на ўваходзе, прыгажуні ў эксперыментальных строях, хадульныя паяцы і фарбаваныя ў бронзу людзі-манументы, шаленства музыкі і святла ў сярэдзіне разам з прыгажосцю кампазіцый пластычнага тэатру на сцэне — усё імкнулася стварыць святочную і вольную атмасферу, падказваючы: Мінск — не толькі горад пампезных парадаў, але і цэнтр свабодных мастацтваў.



**Экспазіцыя «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта».** Фота аўтара

У інтэр'еры выставачнага «рамонка» арганізатары прадставілі творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, дызайну, фатаграфіі і арт-аб'екты, створаныя мастакамі Мінска, і, што істотна, правінцыйных цэнтраў, пераважна за апошнае дзесяцігоддзе. Кампазіцыя разгарнулася ад пампезнага «Куба Казіміра Малевіча» (2014) Канстанціна Вашчанкі і ўвасобленага ў фатаздымках арт-праекта «Горад» вобраза разнастайнага адпаведна аўтарскім адчуванням Мінска (Сяргей Ждановіч, Артур Клінаў, Сяргей Кажамякін, Вадзім Качан) да перыферыі вялізнай залы.

Акуратна арганізаваная спецыяльнымі выставачнымі модулямі прастора расцякаецца да адасобленых пляцовак з творамі найбольш цікавых праектаў апошніх гадоў. Іх дэманструе Музей сучаснага мастацтва, віцебскія мастакі («Матэрыя мастацтва: цвёрдае і мяккае»), Галерэя Універсітэта культуры («Тапаграфіка», «$H_2O$», «Тэхна-арт» і іншыя), Беларускі саюз дызайнераў («Пастулат»). Як справядліва адзначыў на адкрыцці экспазіцыі віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Тозік — беларускі авангард пачатку XX стагоддзя зрабіўся класікай, а сённяшнія маладыя маюць шанс зрабіцца настолькі ж вядомымі, як іх папярэднікі.

Ці будзе так, пакажа час, але сама выстава, як і выпушчаны да яе шыкоўны каталог, які ўвабраў творы з усіх трох экспазіцый, — гэтаму відавочна паспрыяе. І дасі штуршок больш шырокаму выкарыстанню творчасці сучасных мастакоў у гарадскім асяроддзі — у якасці сродкаў дэкаравання, камунікацыі, арганізацыі прасторы. Засвоеная спадчына нацыянальнага авангарду і эксперыментальных плыняў сусветнага мастацтва XX ст., перапрацаваная сродкамі дызайну, сама просіцца на прасторы гарадскіх вуліц. «Далі рады ў арганізацыі гэтага глабальнага праекту — дадзім рады і ў арганізацыі «Чэмпіянату свету па сучасным мастацтве», — заўважыў кіраўнік саюза дызайнераў Зміцер Сурскі.

Прадстаўленая аматарам другая частка агульнай задумы — «Сто гадоў беларускага авангарда» ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва не зусім адпавядае сваёй назве. Апрача нязначнай колькасці твораў і рэпрадукцый першай паловы XX ст., сапраўды звязаных з авангардам, прадстаўлены ў асноўным работы мастакоў андэграўнду, нон-канфармістаў, і пазасаюзных мастакоўскіх аб'яднанняў, як «Няміга–17» — разнастайныя, цікавыя, але не авангардныя.

У тым ліку такія, якія ў першую чаргу адлюстроўваюць неафіцыйныя плыні ў культуры Беларусі 1970–1990-х гадоў. Часу, калі, як заўважыла адна з прадстаўленых у экспазіцыі аўтарак Вольга Сазыкіна, «пачаўся рух духу», калі да творчасці прыйшлі шматлікія непрафесійныя творцы, каб, пераадольваючы атмасферу застою, дастукацца да сэрцаў аднадумцаў мастацкімі работамі, пранізлівымі дэкларацыямі пошукаў свабоды. Часу, калі шчасцем было паказаць свае творы на падпольных выставах, перадаць іх амаль бясплатна ў калекцыі сяброў, а калі пашанцуе — у шырокі свет.

Значную частку экспанаванага арганізатары пазычылі з прыватных збораў — Андрэя Плясанава, Аляксандра Іванова і іншых. Што датычыць работ — то пра іх сукупнасць і пра андэграўнд як з'яву маюць выказацца не столькі мастацтвазнаўцы, як сацыёлагі, гісторыкі, псіхолагі, — андэграўнд адбыўся хутчэй як сацыяльная з'ява.

Імёны мастакоў у экспазіцыі — знакавыя: Генадзь Хацкевіч, Андрэй Жданаў, Людміла Русава, Бісмарк, Фёдар Кашкурэвіч. «Гэта другі прарыў, другі выхад андэграўнду да мінскай публікі — разам з грунтоўным каталогам», — адзначыў уладальнік ладнай часткі прадстаўленых твораў Андрэй Плясанаў. Першы, нагадаў ён, адбыўся 9 снежня 1987 года, на самым пачатку перабудовы.

Завяршаючы трыадзіны выставачны праект, Музей сучаснага выяўленчага мастацтва адчыніў экспазіцыю рэпрадукцый твораў сучасных беларускіх мастакоў з уласнай калекцыі пад назвай «Мастак і горад. BelART.by» на плошчы Якуба Коласа. Прыходзьце і глядзіце — у Мінск у бліжэйшыя тыдні можна ўбачыць не толькі хакей.

# Блюз, рок і фолк на фоне вернісажу

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Адной з падзеяў выставы «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта» стаў unplugged-канцэрт удзельніка выставы, мастака і музыканта, лідара гурта «P.L.A.N.» Андрэя Плясанава.**



**Андрэй Плясанаў — акорд за акордам.** Фота аўтара

Бадай, упершыню адрэстаўраванае памяшканне выставачнага комплексу адчула і ўспрыняла рытмы року і блюзу. І гэта выставачнай зале, так бы мовіць, «спадабалася» — гук атрымаўся сакавітым, а словы песень і гітарных акорды не зліваліся ў адну каламесу.

Гэта дапамагло Андрэю адразу распачаць своеасаблівы дыялог з публікай і ўвайсці ў эмацыянальны кантакт са слухачамі, якія патроху ад экспанатаў выставы падыходзілі да канцэртнага подыюма. Тым больш, што распачаў А. Плясанаў свой незвычайны «выставачны» канцэрт адным са сваіх даўніх хітоў — апрацоўкай народнай песні «Шынкарачка», якая была вельмі цёпла сустрэтая слухачамі.

Сваю канцэртную праграму А. Плясанаў пабудаваў як напамін пра выданыя ім і гуртом «P.L.A.N.» шэсць альбомаў. Таму ім былі праспяваныя і рытм-блюзавы «Скрып-блюз», і лірычныя «Аковы кахання», і гімн жыццю паэткі-эмігранткі Н. Арсенневай «Пра вясну». Лірычная плынь у канцэрце была працягнутая хітамі гурта, якія былі ў першых радках шматлікіх беларускіх хіт-парадаў — «Легенда» (кавер на Uriah Heep), «Анна-Мар'я», «Шлях да каханай» і іншымі цудоўнымі кампазіцыямі.

Акрамя беларускамоўных кампазіцый, А.Плясанаў прапанаваў слухачам і рускамоўныя творы, якія яму вельмі падабаюцца. Напрыклад, песню Чыжа & кампаніі «Она не вышла замуж...» і іншыя песні з ранейшага перыяду музычнай творчасці аўтара.

Таксама вельмі цёпла былі прыняты беларускамоўны кавер Андрэя Плясанава на знакамітую песню Уладзіміра Высоцкага «Коні пераборлівыя», у якой слухачы змаглі ацаніць лексічныя і паэтычныя магчымасці роднай мовы, якой пад сілу пераасэнсаваць самыя складаныя радкі і эмоцыі класічнай рускай і славянскай паэзіі...

Ну а завяршыў Андрэй Плясанаў свой гадзінны канцэрт пад скляпеннямі выставачнага комплексу «Мінск-ЭКСПА» адным са сваіх ранейшых хітоў — кампазіцыяй «Добрай раніцы, Беларусь» («Ранішнія адчуванні»), якую ўсе прысутныя заспявалі разам.

Канешне, канцэрт мастака і музыканта Андрэя Плясанава ў «Мінск-ЭКСПА» — гэта толькі крэска да тых скарбаў, якія прадстаўлены на стэндах. Але такімі музычнымі творамі толькі ўзмацняецца вартасць такой небанальнай мастацкай падзеі, як выстаўка «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 565

Падпісана да друку 2.05.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.